

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Літаратура і Мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

АРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 30 сакавіка 1990 г. № 13 (3527) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## У НУМАРЫ:



Аляксею Марачкіну — 50 гадоў. Сваю творчасць мастак прысвяціў абуджэнню гістарычнай памяці беларускага народа, асэнсаванню драматычнага і гераічнага лёсу Беларусі. З ягоных палотнаў глядзяць на нас Кірыла Тураўскі і Францішак Скарына, Рагнеда з Ізяславам і Вітаўт Вялікі, Кастусь Каліноўскі, Іван Луцкевіч...

Творчая пазіцыя мастака падмацоўваецца і ягонай грамадскай дзейнасцю. Ён — адзін з лідэраў маючага сцвердзіцца Згуртавання мастакоў Беларусі, сябра Сойма Беларускага народнага фронту «Адраджэнне». А. Марачкін сустракаецца з людзьмі не толькі ў выставачных залах, але і на шматтысячных мітынгах...

Фота Я. КОКТЫША.

**це, але ў 20-х — пачатку 30-х гадоў — на кожнай манеце. А яшчэ паспяшаліся змясціць серп і молат на фоне ўсяго зямнога шара. Так і сёння выглядае наш герб.**

**Наша партыя падпісвала смяротны прысуд капіталізму як сістэме, абяцала «да тла зруйнаваць стары свет», «до оснований, а затем...» У абгрунтаванне і апраўданне прысуду ўключылася навука, філасофія, гісторыя і, вядома, мастацкая літаратура:**

дружнасці, пагражаючы іх гістарычным заваёвам. Дык ці можа наша партыя несці адказнасць за развязванне халоднай вайны? Чаму ўсё так нечакана павярнулася?

Ці не таму, што ўсе пабачылі, як фантастычная мара аб сусветнай калектывізацыі, аб сусветнай сістэме сацыялізму становіцца рэальнасцю? У краінах, вызваленых ад фашызму, ў друку, ні ў выступленнях кіраўнікоў. А каб наблізіцца да яго хоць колькі-небудзь, варта нагадаць некаторыя факты. Усе мы добра памятаем словы: «Партия — ум, честь и совесть нашей эпохи». «Розум, гонар і сумленне». А што сёння можа зрабіць радавы камуніст, калі бачыць, што ў таго, хто выступае ад імя партыі, няма ні розуму, ні гонару, ні сумлення?

толькі тыя, што прадугледжаны статутам, асабліва палажэннем аб так званым «дэмакратычным цэнтралізме»,— але і камандуючы паўсядзённа, не абапіраючыся ні на якія законы, дзейнасцю Саветаў, дзяржаўных устаноў, развіццём народнай гаспадаркі, навукі, культуры, стварыўшы паралельныя — прытым рэальныя — органы ўлады.

Есць яшчэ ў партыі і рада-

---

*Перабудова і мы: урокі, трывогі, спадзяванні*



**Уладзімір КАЗБЯРУК**

# Якім шляхам пойдзем?

**КАЛІ МЫ паспрабуем прасачыць за ходам дыскусіі вакол пытанняў партыйнага будаўніцтва і Статута КПСС у сувязі з падрыхтоўкай да XXVIII з'езда партыі, то заўважым, што, як правіла, аўтары многіх публікацый—у тым ліку людзі з важнымі пасадамі і высокімі званнямі—аб нечым разважаюць, нешта прапануюць, але старанна абыходзяць галоўныя пытанні: чаму мы сёння перажываем такі крызіс эканамічны і палітычны, чаму краіна, нягледзячы на небывалыя запасы натуральных багаццяў, неабмежаваныя прасторы, на працалюбства і талент нашых людзей, не можа сябе пракарміць, забяспечыць мылам, нейкай зубной пастай, практычна нічым! Што можа быць у перспектыве і што рэальна трэба зрабіць, каб выйсці з крызісу!**

---

**...капитализм разбух**
**и обдряб.**
**Обдряб**
**и лег**
**у истории на пути**
**в мир,**
**как в свою кровать.**
**Его не объехать,**
**не обойти,**
**единственный выход—**
**взорвать!**

**І больш канкрэтна:**

**Против**
**буржуазии всех стран**
**подымем**
**знамя**
**гражданской войны!**

**Хто так пісаў? Памятаем: «лучший, талантливейший поэт нашей советской эпохи» Уладзімір Маякоўскі.**

**Такая была мода і агульная палітычная атмасфера, што на гэтую сусветна-рэвалюцыйную тэматыку пацягнула і самага нацыянальнага з нашых паэтаў Янку Купалу:**

**Культуру хамства і далара,**
**Князёў і біскупаў палацы**
**Ад Скандынаваў да Сахары**
**Зруйнуеш, дыктатура працы.**

**Або:**

**Я веру — настане**
**такая часіна,**
**І руняй савецкай**
**уквецяцца гоні,**
**Дзе Віслы, дзе Сены,**
**дзе Тэмзы даліны...**

**Ад пісьменнікаў стараліся не адставаць і лінгвісты. Яны па меры сваіх сціплых сіл наближалі сусветную рэвалюцыю тым, што выдзелілі ў асобную групу так званыя інтэрнацыянальна-рэвалюцыйныя словы ды прыдумалі для іх адметны правапіс.**

**Капіталісты аднак чамусьці не надта хацелі, каб іх «гоні» «ўквечваліся» «руняй савецкай». Пабачыўшы, што такое калектывізацыя, і пераканаўшыся, як выглядае «победивший социализм», свет адчуў для сябе смяротную небяспеку. І няма чаго здзіўляцца, што заходнія дзяржавы так патуралі нямецкаму фашызму, дазволілі яму праглынуць Аўстрыю і Чэхаславакію, не надта спяшаліся на выручку сваёй саюзніцы Польшчы. І толькі тады, калі вермахт адным ударам разбіў такую магутную, як усім уяўлялася, Францыю, не даўшы ёй спакойна адседзецца за лініяй Мажыно, ды яшчэ загарнуў усю Заходнюю, Паўночную і Паўднёвую Еўропу, тады ўсе страцілі надзею на тое, што фашызм можа кагосьці ад чагосьці ратаваць.**

У час вайны магло складвацца ўражанне, што стратэгічныя арыенціры нашай партыі пачалі мяняцца: быў распушчаны III Інтэрнацыянал, замяніўся ў нас гімн, які больш не заклікаў разбураць стары свет дашчэнту, да тла. У арміі пачалі адраджацца старыя традыцыі. А да беларусаў, напрыклад, з гонарам вярнуўся Францішак Скарына (праўда, тады яго назвалі Георгіем).

І тут нечакана, як можна было б падумаць, пасля такой перамогі, пачалася вайна халодная. Вострая антысавецкая прамова Чэрчыля ў Фултане ўзбударажыла свет. Капіталісты стварылі ваенны блок НАТА, што цёмнай хмарай навіс над краінамі сацыялістычнай садружнасці...

Сталін адразу ж заводзіў свае парадкі. Пагроза глабальнага сталінскага сацыялізму станавілася больш рэальнай, больш блізкай, чым у 30-я гады. Пра радасць сусветнага рэвалюцыйнага паходу не забыла нагадаць і наша літаратура:

**Сто гадоў назад мы**
**выйшлі на вайну,**
**Сто гадоў мы рылі дол для**
**капітала,**
**Для хаўтур яго скалочвалі**
**труну...**

Гэта быў 1948 год. Так станавіліся рэальнасцю словы: «Призрак бродит по Европе, призрак коммунизма».

Сёння грамадска-палітычны лад, створаны ў краінах Усходняй Еўропы па сталінскіх рэцэптах, разваліўся канчаткова. А ў нас забастоўкі ў вугальных басейнах і міжнацыянальныя канфлікты моцна патрэслі і нашу велізарную краіну. Калі з гэтых катаклізмаў не зрабіць належных вывадаў, калі не ліквідаваць беспаваротна сталінскую сістэму — яна ж добраахвотна ніяк не хоча саступаць з дарогі, легла так, што і сапраўды «яе не аб'ехаць, не абысці», — то мы не застрахаваны ад падзей, якія адбыліся ва Усходняй Еўропе.

## II.

У АФІЦЫЙНЫХ ДАКУМЕНТАХ і ў друку сцвярджаецца, што перабудову пачала партыя. Але ёсць дастаткова людзей, што лічаць партыю найбольш кансерватыўнай сілай, якая рэальнай перабудовы не дапусціць.

Хто мае рацыю? Гэта не рытарычнае пытанне, на якое можна адказваць, а можна і прамаўчаць. Ва Усходняй Еўропе партыі, створаныя па мадэлі КПСС, панавалі, пакуль над імі і над народамі вісеў страх божы. А калі народы агледзеліся, што бізун над імі знік, то гэтыя партыі раптам рассыпаліся.

А што ў нас з аўтарытэтам КПСС: ёсць ён, рэальны, ці няма яго? Ці не чакае яе ва ўмовах дэмакратыі лёс КПЧ, ВСРП, РКП, ПАРП, САПГ? А можа, нехта яшчэ разлічвае на кітайскі варыянт?

Толькі сумленны адказ на гэтыя і іншыя пытанні, толькі кваліфікаваны дыягназ хваробы — а яе ўсе бачаць — дазволіць шукаць шляхі яе лячэння. Пакуль што бясспрэчна адно: шукаць трэба калектыўна, выкарыстоўваючы ўвесь інтэлектуальны патэнцыял партыі. Але ці магчыма гэта сёння? На такое пытанне мы не адкажам, пакуль не ўсвядомім дастаткова выразна, што такое партыя ў нашых канкрэтных умовах. Адказу на яго мы не знойдзем ні

Нічога, абсалютна нічога.

Сёння слова «партыя» паўтараецца ўсюды. Але ці спрабавалі мы разабрацца, што яно значыць? У пошуках разгадкі значэння гэтага тэрміна не будзем звяртацца да тлумачальных ці філасофскіх слоўнікаў або гістарычных энцыклапедый, а лепш яшчэ раз нагадаем Маякоўскага:

**Мы говорим Ленин,**
**подразумеваем —**
**партия,**
**мы говорим партия,**
**подразумеваем —**
**Ленин.**

Так паэт пераасэнсаваў крылаты выраз Людовіка XIV («Каторза», як яго на французскі манер назваў у сваёй паэме «Владимир Ильич Ленин») «Дзяржава гэта я».

«Бацька ўсіх народаў» Сталін яшчэ больш падстаў меў сказаць: «Дзяржава і партыя — гэта я». А як было пасля Сталіна? Успомнім прысягу Хрушчова: «Партия торжественно провозглашает: нынешнее поколение советских людей будет жить при коммунизме!» Не сам ён абяцаў, а партыя. А хто бажыўся, што ў 1980 годзе кожная савецкая сям'я будзе мець асобную кватэру і што па вытворчасці ўсяго на душу насельніцтва мы да гэтага ж самага года перагонім Амерыку? Тая ж самая партыя па прозвішчу Хрушчоў. А калі Мікіту Сяргеевіча папрасілі ў адстаўку, то пра тыя абяцанкі-цацанкі паспелі забыць.

Якая партыя можа разлічваць на павагу, калі тое, што гаворыцца ад яе імя, так лёгка ляціць на вецер? І вінаватых ніхто не шукае. Як быццам так і быць павінна.

А што адбываецца сёння? Ці партыя як такая, як нешта цэлае, пачала перабудову? Мы добра ведаем, што ініцыятарам яе з'явіўся Генеральны сакратар, хоць у яго, вядома, была падтрымка. Гэта значыць, што і сёння партыя — гэта Генеральны сакратар, а Генеральны сакратар — гэта партыя.

Адсюль і ўсе нашы беды. Кожнаму чалавеку прырода дала галаву для таго, каб ён мог думаць. А вось партыя пры сталінскай сістэме ўвесь час думала адной галавой. Многія мільёны партыйцаў мелі толькі права ківаць галовамі рытмічна, размерана, у такт гістарычных пастаноў, мудрых і мудрэйшых указанняў, у святле... Як запоўнены зал на сеансах Кашпіроўскага.

А ці толькі Генеральны сакратар выступае ад імя партыі? Не толькі. Ад яе імя дзейнічае і партапарат, ажыццяўляючы свае функцыі, — прытым не

вые члены, што абавязаны няўхільна выконваць усе ўказанні апарату, які прадугледзеў для сябе, за сваё вернае служэнне народу, усе магчымыя ў нашых умовах прывілеі. Некаторыя з іх—за кошт партыі, а іншыя — спецыяльнае лячэнне, санаторнае абслугоўванне, персанальнае пенсійнае забеспячэнне — за кошт дзяржавы. Прытым некаторыя чыста партыйныя прывілеі маюць настолькі абсурдны характар, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць. Скажам, чалавеку — не за партыйныя заслугі — прызначылі персанальную пенсію рэспубліканскага значэння і запісалі ў адпаведных дакументах, што ён атрымае пуцёўку ў санаторый і аднаразовую дапамогу ў памеры месячнай пенсіі праз **21 год!** Аказваецца, што для таго, каб персанальны пенсіянер мог атрымаць пуцёўку і грашовую дапамогу, патрэбен ТРЫЦЦАЦІГАДОВЫ ПАРТЫЙНЫ СТАЖ! Чалавеку з нармальнай псіхікай проста немагчыма ўявіць, якое дачыненне можа мець пенсія да партыйнага стажу. А ці падумаў хто, як такія пастановы б'юць па аўтарытэце партыі? Каб хто і хацеў, то больш арыгінальнага глуму над паняццямі «розум, гонар і сумленне» не прыдумаў бы.

**З трыбуны другога З'езда народных дэпутатаў Я. М. Прымакоў на ўсю краіну, на ўвесь свет пералічыў прывілеі, якімі быццам карыстаюцца персанальныя пенсіянеры. У іх ліку назваў бясплатны праезд на ўсіх відах гарадскога транспарту, бясплатны праезд адзін раз у год у любы канец краіны, бясплатная пуцёўка ў санаторый. На самай справе ўсё гэта фікцыя. Для гэтых прывілеяў патрэбны яшчэ або той партыйны стаж, або пасведчанне ветэрана Вялікай Айчыннай вайны. Але кожнаму вядома, што гэтае пасведчанне дае права на такія праезды без персанальных пенсій.**

**Сам факт выкарыстоўвання такіх дутых звестак сведчыць аб узроўні кампетэнтнасці нашага кіраўніцтва, а больш дакладна — тых памочнікаў, сапраўдных аўтараў даклада, якія могуць абы-што падсунуць свайму начальніку, ведаючы са шматгадовай практыкі, што ніхто не асмеліцца запярэчыць.**

**Так было заўсёды. Але сёння ўжо настаў іншы час. І нават Я. М. Прымакоў з яго высокай пасадай не застрахаваны ад таго, што не раскажуць у друку, як ён для прыватных паездак выкарыстоўвае персанальны самалёт, дэзарганізуючы на нейкі час работу ўсёй грамадзянскай авіяцыі над Масквой, або як ён з трыбуны з'езда паведамляе фіктыўныя звесткі.**

**Пры аказіі нагадаю, што ў газеце «Советская культура» 15 лістапада 1988 г. намеснік загадчыка аддзела па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню ВЦСПС Г. Сімоненка пісаў на поўным сур'ёзе: «В настоящее время готовится проект нового Закона о пенсионном обеспечении трудящихся, направленного на дальнейшее улучшение условий жизни пенсионеров». Аказваецца, у нас толькі тым і займаліся, што ўвесь час павышалі жыццёвы ўзровень пенсіянераў. Аднак чамусьці самім пенсіянерам забыліся пра гэта паведаміць.**

Чаму ў нас усё яшчэ не адчуваюць адказнасці за такога роду выступленні на трыбуне ці ў друку? Таму, што ў падборы кадраў, у назначэнні на кіруючыя, у тым ліку і на так званыя «выбарныя», пасады заўсёды безадказна дзейнічаў непахісны цэнтралізм. Адсюль у кіруючых органах і інстанцыях такім пашыраным з'яўляецца самадурства. А ў выніку — паглыбляецца пропасць не толькі паміж апаратам і народам, але і паміж апаратам і партыйнымі масамі. Толькі дэмакратычна выбраныя прадстаўнікі самой партыі маглі б прыцягнуць да адказнасці за безгаспадарчасць, самадурства, падман, правалы ў эканамічнай і ідэалагічнай дзейнасці.

Рэальная перабудова ў партыі пачнецца тады, калі кожны член КПСС будзе прымаць удзел у выбарах дэлегатаў на ўсе партыйныя форумы — на з'езды КПСС, КПБ, на канферэнцыі абласныя, гарадскія, раённыя. А яшчэ і тады, калі ён будзе мець права прымаць удзел у галасаванні вотуму даверу ўсім партыйным інстанцыям.

А ці не прадугледжана ўсё гэта і «Платформай ЦК КПСС» і пастановай аб парадку выбрання дэлегатаў на XXVIII з'езд КПСС? Там жа гаворыцца пра ўдзел усіх членаў КПСС у выбарах дэлегатаў? У дакуменце і сапраўды спачатку гаворка вядзецца пра нармальныя, дэмакратычныя выбары. Але неўзабаве насцярожвае прапанова праводзіць выбары «па многамандатных выбарчых акругах». Тут нічога не сказана пра гарантыю кожнаму члену партыі і нават беспартыйнаму выступіць публічна супраць кандыдатур, заведама непрымальных, супраць людзей, якія не апраўдалі даверу на сваіх пасадах. Пры такой сістэме было б больш магчымасцей адсейваць людзей, якія не па душы партыйнаму апарату.

І нічога агульнага з дэмакратыяй не мае наступнае палажэнне: «У адпаведнасці з дзеючым Статутам КПСС дэлегаты на з'езд партыі могуць быць выбраны закрытым (тайным) галасаваннем на абласных, краявых партыйных канферэнцыях і з'ездах кампартый саюзных рэспублік. (...) У гэтым выпадку выбары праводзяцца на альтэрнатыўнай аснове з ліку кандыдатаў, вылучаных у пярвічных партарганізацыях і падтрыманых раённымі (гарадскімі) партканферэнцыямі». Бясспрэчна, знойдзецца нямала аматараў з высокіх інстанцый, што паспрабуюць прациснуцца праз створаныя такім чынам шчыліны на ўсесаюзны партыйны форум, не пажадаўшы праверыць узровень свайго аўтарытэту ў асяроддзі саміх камуністаў. Калі дэлегаты на з'езд будуць выбірацца на пленумах ці рэспубліканскіх з'ездах, туды трапяць зноў прадстаўнікі партапарату і яго падстаўныя фігуры.

## III.

МЫ МАЕМ тое, што маем. А становішча ў нас незайздроснае і непрыгляднае ва ўсіх сферах жыцця — у эканоміцы, палітыцы, культуры, навуцы, народнай адукацыі. Адной з найгоршых бед з'яўляецца брак духоўнасці як вынік панавання сталінізму, ад якога ніяк не можам пазбавіцца.

Калі мы гаворым і пішам — так часта і так настойліва — аб прычынах і праявах сённяшняга бязладдзя, то не для таго, каб проста вярэдзіць нашы застарэлыя раны, а каб зразумець сутнасць памылак нашых продкаў, тых людзей, якія падрыхтавалі і здзейснілі Кастрычніцкую рэвалюцыю з верай у яе выратавальнае для народаў нашай краіны і ўсяго свету прызначэнне. І шукаць лякарства ад хваробы, што ўсё больш пагрозліва раз'ядае наш грамадскі арганізм. Адна з важнейшых задач, якія стаяць перад намі, — рашуча пакончыць з ідэалагічнымі догмамі, што адыгралі

(Працяг на стар. 12).

Сяргей ДУБАВЕЦ

# ТРЫ ПАЭЗІІ

**Палемічныя нататкі**

КОЖНАГА разу, калі думаю пра паэзію, я думаю пра жанчыну. Пакуль ёсць жанчына — нараджаюцца вершы. «Нарадзіўся раман ці «нарадзіўся артыкул»,— так не кажуць. Нараджаецца толькі паэзія. Тут уладарыць не разважлівы і нават не інтуітыўны пачатак. Так пануе стыхія, непрадказальная і спантанная. Раптам стала сумна, раптам смешна, раптам заплакала, раптам...

З таго, як мужчына цягнецца да парадку, да сістэмы, да ўсяго і ўся абумоўленасці, можна зрабіць выснову, што ён ад пачатку схільны да бюракратызму, да стварэння жорсткіх структур, да культу формы. Правам дужага, непадзельнаю ўладай ці праз любы сэрцу грамадскі парадак, праз умоўнасці ён падпарадкоўвае сабе жанчыну, і тая, блякнучы ды хмурнеючы, ператвараецца ў нявольніцу, вымушаную згаджацца і падначальвацца. Што прыемнае яму — цяпер і ёй прыемнае. Ужо нават думаць пра вызваленне яна не можа. І вось яна, прыгнятаючы сябе, сарамліва хавае і ўсяляк глушыць у сабе сваю адрозную ад мужчынскай духоўную прыроду як нешта непрыстойнае. Яна ўжо імкнецца прыпадобіцца мужчыну: стрыжэцца пад «паўбокс», надзявае штаны (гэта на яе фігуру!), смаліць цыгарэты, п'е...

Вось жа паспрабуй яна паўстаць. Нічога не атрымаецца. Вынік будзе той самы. Бо жанчына-Спартак — гэта мужчына ў спадніцы. Імкненне да эмансіпацыі, да роўнасці плоці абарочваецца яшчэ большым рабствам. Таму што за эталон, за тое, да чаго трэба прыраўнацца, узяты мужчына, ягоная ўнутраная прырода, псіхалогія, ягонае грамадскае становішча.

**У размовах пра эмансіпацыю (заўсёды альбо «занадта сур'ёзных», агульных і прагматычных — з трыбуны, альбо з усмешкай — у побыце) жанчына разглядаецца як чалавек, адрозны ад мужчыны толькі некаторымі фізіялагічнымі асаблівасцямі, і толькі гэтая розніца ўлічваецца пры «выраўноўванні». Жаночая псіхалогія пры гэтым — нешта загадзя другаснае. Як другасныя ўсялякія «женсоветы», што існуюць выключна на ўзор арганізацый мужчынскіх. Магчыма, увогуле любая арганізацыя (а ўжо творчая — без сумліву) чужая жаночай прыродзе.**

**Нявольніцтва разбэшчвае жанчыну. Яе прырода знаходзіць выйсце ў безадказнасці, капрызах, несвядомых учынках. Ці памятаеце фільм «Мілы, дарагі, адзіны»? Жанчына ўчыняе злачынства і не раскайваецца, не замыкаецца ў сабе, не апраўдвае сябе, як зрабіў бы мужчына, а панікуе, самое жыццё для яе — усеабдымны жах! Дарэчы, ужо пасля выхаду гэтага фільма ў часопісе «Крыніца» з'явіўся нарыс, дзе апісаная падобная гісторыя, але з жыцця: жанчына крадзе чужое немаўля і, схопленая на месцы злачынства, западае ў паніку, у істэрыку. Няма ў яе ані думак, ні пачуццяў, а толькі жах перад вялізным, страшным і злым светам. Дастаткова асэнсаваць гэтую сітуацыю і агледзецца наўкола, каб зразумець, што ўсё гэта невыпадкова і не унікальна. Жанчына, якая не набыла ці страціла сваю жаночую сутнасць, не мае імунітэту да спакусаў і зла. Яна безабаронная і безадказная.**

Але чаму я ўсё гэта пішу? А таму, што, думаючы пра жанчыну, я думаю пра паэзію. Ці не адбываецца тое самае з паэзіяй?

Мужчынскі пачатак — сапраўды празаічны. Мужчына становіцца сапраўдным паэтам толькі тады, калі муза яго — жанчына. Калі ж і ў паэзіі ён «на пегасе», дык альбо паэзія ягоная набліжаецца да прозы, да імпрэсіі, да эсэ (вершы — верлібры — версеты — проза), альбо гэта не паэзія.

Сёння ўжо хапае сведчанняў і доследаў непапулярнасці паэзіі. Пра гэта — расхожая фраза: «Не люблю паэзію». «Не люблю прозу»,— ніхто яшчэ не сказаў. Ніхто нават не ставіў праблему папулярнасці прозы. Давялося б казаць і пісаць пра непапулярнасць літаратуры наогул.

А вось падобная сітуацыя, падобныя суадносіны. «Дзень паэзіі» ёсць, а «Дня прозы» няма, Жаночы дзень — ёсць, а Мужчынскага — няма. Гэта таму, што проза — літаратура ўвогуле, мужчына — чалавек увогуле. Паэзія ж — другасная, яна нібы ўдакладненне, раздзел прозы. Такое ейнае месца не ў нашых літаратуразнаўчых стэрэатыпах, але ў жыцці.

Паэзія другасная — з якога часу? З тых часоў, як другаснай стала жанчына.

Гутарка ідзе, калі хочаце, пра чысціню, першаснасць жанру, пра ягоную абсалютную самакаштоўнасць. Другасны жанр ніяк не можа быць чысты. Ён размываецца, асімілюецца больш моцным, першасным. Невыпадкова сёння многія паэты выбіраюць прозу, драму, публіцыстыку, як «асноўнае». Добра, калі ўсё гэта роўнае і самакаштоўнае ў творчым свеце пісьменніка, усё адпавядае абранаму ім метаду. Напрыклад, анамальнаму сёння рамантызму, як у Караткевіча. Ягоны творчы свет злеплены з самых розных жанравых цаглінаў. Але ж Караткевіч — выключэнне. Бо ў астатніх — зусім без метаду і без асобы. Каша. Аўтар сядае да стала з ураўнаважаным «станам душы» і піша тое, што падкажа розум. Вершы? Давай. Прозу? Калі ласка. Драму?.. А ці не напісаць мне пра гэта драму?..

Сціранне сутнаснай эстэтычнай мяжы паміж рознымі відамі вобразатворчасці прывяло да таго, што паэзія пішацца па празаічных, а то й публіцыстычных законах. Агульнапрынятай нормай стала адсутнасць лірычнага героя, гэта значыць вобраза аўтара. Называецца некалькі аўтабіяграфічных фактаў, і гэтым асобасная прыналежнасць твора вычэрпваецца. Але ж паэзія — гэта і ёсць лірычны герой.

Я ўжо пісаў пра асноўныя недахопы сучаснай беларускай паэзіі. Дэкаратыўная мова (беларускія паэты думаюць па-руску), дэкаратыўныя думкі (туманнасць іх дапускае неабмежаванае мноства «прачытанняў»), дэкаратыўныя пачуцці (звернутыя «ўсярэдзіну», яны толькі кладуцца на паперу, але «ўстаць» да чытача ўжо не здатныя). Да гэтага дадам тое, што аўтар вершаў часта аддзелены ад вечнага агульначалавечага маральнага грунту масай часовых і вельмі сумліўных умоўнасцей, найперш ідэалагічнага характару.

Так, многія паэты — зусім і не паэты. Быкаў — чысты жанр, Брыль — чысты... А астатняе — пасярэдзіне, пасрэднае.

Таму і пайшла гутарка пра чысціню жанру. Як у прозе эталонам ёсць усё ж такі мужчынская проза, так у паэзіі — усё ж такі жаночая паэзія.

Не асабліва, праўда, надаралася жанчынам пісаць. Але глыбей за іх у самую сутнасць паэзіі ніхто, бадай, і не пранікаў. Ні адзін мужчына.

Пачытайце Габрыэлу Містраль. Але не мяркуйце па «ўзроўні», па майстэрстве. Пакіньце гэтыя чыста мужчынскія крытэрыі рамяства. Мяркуйце па тым, як поўна, арганічна і даступна адлюстраваная ў вершах гэтая ні да чаго не падобная псіхалогія жанчыны. Як на банальным кляновым лістку паміж старонак фаліянта адлюстраванае ўсё наша зямное жыццё. А лепш не мяркуйце ўвогуле. Пастарайцеся зразумець...

Жаночая паэзія — гэта як куток натуральнай прыроды ў самой прыродзе-паэзіі, у межах жанру. Колькі набудавана тут усяго з дубу і бетону! А вось — закінуты глухі парк, дзе ўсё расце як хоча. (Адзін паэт назваў свой зборнік вершаў «Парк». У выдавецтве пратэставалі, маўляў, гэта тэхнічны тэрмін. Трэба што-небудзь накшталт «Гронкі радасці»). Быццам нікому, ні па якіх прагматычных меркаваннях гэты парк непатрэбны. Але знікне ён, знікне паэзія ўвогуле. Вырадзіцца. Ператворыцца ў нейкі «лірычны гермафрадыт», няздольны нараджаць. І сімптомаў гэтаму колькі заўгодна.

Напрыклад, наша жаночая паэзія «сярэдняга пакалення». Чым яна адрозніваецца ад мужчынскай? Тая ж дэкаратыўнасць, тая ж звернутасць пачуцця «ўсярэдзіну», тыя ж шоры агульнапрынятасці. Паміж сабой яны таксама часам падобныя. Хіба што настойлівы зварот да жаночых вобразаў нацыянальнае гісторыі адрознівае іх ад паэтаў-мужчын. З іншага боку, гэтая вось устаноўка — пісаць менавіта пра жанчын, як і кожная іншая разумовая ўстаноўка, скоўвае іх. Яны не стыхійныя, не непрадказальныя. Розніца ж іхніх паэзій паміж сабой — не ў адрозных «станах душы», а зноў-такі ў назыўных аўтабіяграфічных фактах. Зрэшты, і біяграфіі нашых паэтак, іх лёсы таксама падобныя. І не толькі фактамі, але і прыгнечанасцю духу. І сцяг над імі адзін — белы. Быццам выцвіла на ім чырвоная паласа нязгоды і жаночае ягамосці. І калі раптам спрабуюць яны стаць актыўнымі, смелымі, нечаканымі, то і смелыя, і актыўныя, і нават нечаканыя яны — па-мужчынску. Ёсць, вядома, і ўдалыя, «дабротныя» вершы і, можа быць, някепскія зборнікі, але зноў жа па-мужчынску ўдалыя і някепскія: разважлівасцю, досведам літаратурнае работы, беражліва назапашанымі эмоцыямі, а не раптоўным і моцным пачуццём. Такім нязвыклым. Такім... чорт ведае якім. Іншымі словамі, наша паэтка запісвае толькі тое, што можа зразумець, прэпараваўшы гэта крытэрыямі часопіснага і выдавецкага рэдактара. Калі ж на пяро просіцца «чорт ведае што» (калі хочаце, ейная жаночая прырода просіцца) ды яшчэ ў «чорт ведае якой» форме, яна спрактыкаванаю рукою рамесніка адкідае гэта як непатрэбшчыну.

Па-жаночы першасныя вершы я знаходжу сёння альбо сярод практыкаванняў пачаткоўцаў — яшчэ неўтаймаваных, не абняволеных «персанальным таўром», альбо ў паэзіі старэйшага пакалення. Напрыклад, у Яўгеніі Пфляўмбаўм:

**Не вымагаю я ў жыцця —**
**Пад сонечнай каронаю —**
**Ані драбіны пачуцця,**
**Ні яблыка чырвонага.**

**Не вымагаю ні хвальбы,**
**Ні віншавальных клічнікаў —**
**Яны, як познія грыбы**
**Дажджыстага кастрычніка.**

**Ні абароны, ні спагад,**
**Ні літасці ганебнае...**
**Хай вее белы снегапад**
**На мой адзіны панарад —**
**На вершаванне зрэбнае.**

**І не чакаючы здаўна**
**Падзякі замаруджанай,**
**Адно баюся, каб мана,**
**Залішне ўгрэўшыся з віна,**
**Зайшла ў мой дом астуджаны.**

Глядзіце, тут нічога не прыдумана. У гэтым простым вершы, здаецца, зусім па-свойму перададзена адчуванне старасці. І я, чытач, бяру гэтае асаблівае адчуванне сабе, такога ў мяне яшчэ няма, так я яшчэ не адчуваў. І цяпер маё ўяўленне пра свет і пра сябе будзе больш дакладнае і больш багатае роўна на гэтае вось адчуванне... Ну, а калі ўсе вершы Пфляўмбаўм нясуць кожны сваё адчуванне?.. Напрыклад, вось гэты страшнаваты верш:

**Ужо ж астатняя бяда.**
**Калі самой сябе шкада,**
**Калі ў люстэрка гляне боль,**
**І, можа быць, нічога больш.**

**А што хацела б ты цяпер?**
**Сысці з двара, як робіць звер,**
**Калі гайдаюцца лясы,**
**А ён цураецца красы,—**
**Яму патрэбен срэбны мох,**
**Каб ён, стамлёны, ўрэшце лёг.**

Ці думалі вы, шаноўны чытач, калі-небудзь пра тое, як вы будзеце паміраць?..

Жанчына нашмат больш жорстка кантактуе з будзённай рэальнасцю, чым мужчына. І «ўзлёт над бытам» ад яе патрабуецца большы. Хоць і не так, як мужчына, «аснашчаная» яна сістэмай, парадкам, дысцыплінай. Але ўзлятаць ёй даводзіцца спачатку да зыходнага (мужчынскага) узроўню, а толькі потым — яшчэ і яшчэ — да ўзроўню творчасці. Іншымі словамі, нявольнік мусіць вызваліцца ад рабства, а толькі потым пасоўвацца ў імператары. Зусім не кожнай гэта пад сілу. Іншая задаволіцца і агульнапрынятым. А іншая — і ўзляцеўшы, не ўтрымаецца. Іншы раз жанчына ставала паэткай цаной уласнага жыцця. Як Ларыса Геніюш, напрыклад. Паэт-трыбун, які да самай смерці служыў толькі Бацькаўшчыне і ані разу нідзе і нікому не схлусіў. Бацькаўшчына — муза трыбуна...

**Хоць душа твая гордая ў ранах**
**З непрытомнага болю крычыць,**
**У гарэлцы чужой і дурманнай**
**Імя нашага не палашчы.**

**Пі, калі цябе піці прымусілі,**
**Калі волі не маеш чамусь.**
**Не кранай толькі п'янымі вуснамі,**
**П'яным клічам не кліч Беларусь.**

**Не гарэлкай, не таннай слязою,**
**Пад ударамі ўпаўшы плашмя,**
**Шмат хто з нас захлынуўся крывёю**
**За яе дарагое імя.**

Чаго тут больш: разважлівага разліку ці шчырага абурэння і мацярынскай горычы?..

Паэзія для Геніюш ніколі, мусіць, не ўяўляла з сябе фармальнага інтарэсу, як гульня ці як прафесія. Ёй пісалася. І разнастайнасць формаў у яе, хутчэй за ўсё, стыхійная, спантанная. Лірычны вобраз жанчыны-патрыёткі — ува ўсіх вершах. Нехта скажа: як проста! Так, проста. Паспрабуйце, скажыце пра сябе, як пра дачку сваёй Бацькаўшчыны, сваёй зямлі так, каб вам паверылі не толькі літаратурныя крытыкі. Хоць бы вось так:

**Блукаю сёння па родным краі**
**Збалелым ценем,**
**Хачу быць кропляй, што перапаўняе**
**Чару цярпення.**

**Хачу быць словам, што выпраўляе**
**На шлях сапраўдны,**
**Сілай, што перамагае**
**У баі за праўду.**

**Пад тваім небам, чыстым і сінім**
**Быць канапелькай,**
**Быць тваім светлым святым успамінам,**
**Мая зямелька.**

Толькі зусім нядаўна стала друкавацца Пфляўмбаўм, толькі выбарачна друкуецца Геніюш, зусім (як на сённяшні дзень — пачатак лютага) не друкуецца ў БССР Наталля Арсеннева. Тры паэткі аднаго пакалення. Тры розныя паэзіі. Усе тры прайшлі сталінскія лагеры ці ссылку. Пфляўмбаўм зараз жыве ў Мінску, Геніюш — некалькі гадоў таму яе не стала — жыла ў Зэльве Гродзенскай вобласці, Арсеннева жыве ў Нью-Йорку.

Па-мойму, гэтых звестак дастаткова, каб зразумець, што кожная з гэтых паэтак — па-свойму эмігрантка. Ці не там, у эміграцыі ўнутранай і вонкавай, нам, беларусам, трэба шукаць сляды сваіх жанчын і нацыянальнае паэзіі? (Заўважце, эміграцыя для беларускай паэзіі — устойлівая тэма, ад Багдановіча да Дранько-Майсюка). Дзякуй Богу і гэтым тром жанчынам, што яны былі і ёсць. Але ж дагэтуль мясцовыя ідэолагі складаюць пра Арсенневу брудныя памфлеты. Маўляў, за вайной не пайшла ў партызаны, а жыла сабе пры акупацыйных уладах, ды яшчэ вершы пісала. Радасныя, маўляў, былі вершы...

**Сцюдзёныя хмары паўзуць у руіны,**
**Настылую цэглу лілёвяць і сіняць...**
**І ходзіць па месце змярканне у зрэб'і,**
**Ссінелымі пальцамі сэрцы цярэбіць.**

**Не ўцяміш,— ці змрок нам туманіць галовы,**
**Ці пыл успамінаў, ці водгулле словаў**
**Пачутых калісьці,— і даўна й нядаўна,**
**А можа й ніколі нікім не складаных?**

**А тут — перад намі йшчэ студзень і люты,**
**Тут — вогнага ветру прастуджаны хлюпат,**

**І неба — прадонны ў нязнанае вылам,**
**І тое, што сэрца — чамусьці астыла...**

Паэт і ўлады, лірык і вайна, восеньскі краявід з павешанымі, тонкае душэўнае перажыванне і грубая фізічная пакута, — ці можа і як можа гэта суаднасіцца? Якое месца лірыка там, дзе пануе дзікунства, дзе кроў і гвалт? — вось пытанні, якія хвалявалі Арсенневу ў час вайны, — ні да яе, ні пасля яе нікім у беларускай паэзіі не закранутыя. Галоўныя пытанні сусветнае літаратуры — пытанні жыцця і смерці.

Увогуле пра вайну напісана шмат вершаў і паэм. Але ўсе яны — з пазіцыі ад пачатку прывільнага чалавека, «узброенага» адназначнымі ідэалагічнымі ацэнкамі. У Арсеннева́й жа — з пазіцыі проста чалавека, чалавека, які вагаецца, жанчыны.

Але найбольш вядомая (у вузкіх, зразумела, колах) Арсеннева як паэт-мастак, акварэліст:

**Свежым снегам асыпаў**
**снежань**
**вастраверхія дахі вежаў,**
**камяніцы, каменне брукаў,**
**бровы жвавых наўздзіў**
**людзей.**
**Пад аснежаны сэрца стукат**
**выплятаю я сетку сцежак**
**на бязмежным абсягу**
**снежным,**
**дзе ружовы разліўся дзень...**

Пачынаючы размову пра паэзію, пра жанчыну, я думаў зусім не пра томную «прекрасную даму», не пра стымуляцыю жаночых капрызаў і істэрыі, не пра плюгкую «свабоду любві». Я думаю пра жанчыну-патрыётку, такую, як Геніюш, жанчыну-мастачку, такую, як Арсеннева, пра жанчыну, якой цяжка (і зусім не трэба) падабраць нейкае ўмоўнае абазначэнне,— Пфляўмбаўм. Усе яны незалежныя, вольныя жанчыны, якія не робяць для сябе крэда з праславутай жаночай слабасці. Не нявольніцы, але й не рэвалюцыянеркі ў жаночым пытанні. Свабода для іх не мэта, але прырода, яна ў крыві, а не ў роўнасці з мужчынам. Па-свойму яна бясконца вышэй за мужчынскую прыроду.

Вось бы сустрэцца з імі тады, калі яны толькі пачыналі, у дваццатыя гады. Фатаграфіі тых гадоў, вядома ж, не даюць поўнага ўяўлення, але на іх — жанчыны. Тагачасныя жанчыны, «вызваленыя рэвалюцыяй» не ведалі яшчэ, што імкнучыся неяк фармальна ўзаконіць сваю свабоду, яны асуджаюць наступніц на яшчэ большае закабаленне.

Галоўнае ж тут тое, што ўсялякая сувязь паміж паэткамі старэйшага і сярэдняга пакалення была перарвана ці нават ніколі і не наладжвалася. Сённяшняму «сярэдняму пакаленню» яўна не ставала прыкладу, нават настаўніка. Яны часта звярталіся да вобразаў Ефрасінні Полацкай (XII ст.) альбо Цёткі (памерла ў 1916 годзе), а непасрэднае сувязі з папярэдніцамі не мелі. Ці не маглі мець, ці не хацелі. Пераемнасць была парушана. Быццам і не было тых трох...

Але ж цяпер мы бачым, ведаем іх, гаворым пра тых, хто ахоўваў прамацярынскі агонь беларускае паэзіі ўсе гэтыя гады. Ці хутка адновіцца перарваная сувязь?

Следам за «сярэднім пакаленнем» прыходзяць у паэзію маладзейшыя. Бяда ў тым, што, стаючы больш ці менш заўважнымі фактамі літаратурнага жыцця, ні тыя ні гэтыя не стаюць з'явамі нацыянальнае літаратуры. «Ля фам» не вырастае, не выспявае ва ўмовах татальнае стандартызацыі і навязаных мужчынам жорсткіх варыянтаў уладкавання жыцця. Магчыма, усё трэба пачынаць з садка, са школы, і прызнаць самакаштоўнасць жаночае псіхалогіі — значыць, прызнаць патрэбу асобнага выхавання і навучання дзяцей...

Мне шкада, што самая тэма гэтых нататкаў даўно асмяяная ў сатырах. Мне шкада, што нехта пасміхнецца і над маімі радкамі. Саму размову пра жанчыну прынята лічыць несур'ёзнай. І ці не самі жанчыны, што сарамліва хаваюць сваю духоўную прыроду, бароняць уласнае нявольніцтва,— завялі гэтую прынятасць? Мне шкада што знікае паэзія. А адрадзіцца яна зможа толькі тады, калі ўфармуецца іншы грамадскі погляд на жанчыну, калі ўсё грамадства перастане скоўваць яе сваімі прымхамі і недарэчнымі рэгламентамі — перад тым, вядома, пастараўшыся яе зразумець.

# АДНАЎЛЯЦЬ СТРАЧАНАЕ

**А. Цітоў. Гарадская геральдыка Беларусі. Мінск, «Полымя», 1989.**

Усё часцей у нас гучаць спрэчкі, якія тычацца гістарычнай сімволікі. На фоне няпростай сітуацыі ў рэспубліцы кніга А. Цітова «Гарадская геральдыка Беларусі» з'явілася сапраўдным адкрыццём. А сам аўтар паўстаў перад намі ў іпастасі асветніка. І хаця матэрыялы на адпаведную тэму (хоць часам і вельмі супярэчлівыя) з'яўляюцца ў перыядычным друку рэгулярна, па сутнасці, гэта першае падобнае выданне ў нашай рэспубліцы (калі, вядома, не лічыць брашуру 1983 года «Гербы беларускіх гарадоў» таго ж аўтара).

Раскрываючы гістарычную заканамернасць з'яўлення гарадоў і іх своеасаблівых візітных картак ва ўводзінах у кнігу, у першай яе частцы аўтар нагадвае галоўныя геральдычныя правілы, прычыны і ўмовы атрымання гарадамі гербаў, іх тыпалогію.

Яшчэ больш цікавай з'яўляецца другая частка кнігі. У ёй у сціслай форме выкладзена гісторыя атрымання адпаведнага статуса і герба амаль усімі гарадамі, што існавалі на Беларусі ў XVI—XIX стст., даецца падрабязнае апісанне выяў гэтых гербаў. У сваім гістарычным экскурсе А. Цітоў разглядае і аналізуе таксама і працэс ніваліравання і рэдагавання гарадскіх гербаў Беларусі па агульнарасійскіх узорах, які разгарнуўся пасля 40-х гадоў XIX ст.

Новая кніга багата ілюстравана каляровымі малюнкамі і фотаздымкамі гербаў, іх выяў на пячатках і ў гістарычнай літаратуры. Напісана «Гарадская геральдыка Беларусі» прыгожай лёгкадаступнай мовай. Але гэта сапраўднае навуковае выданне, карыснасць якога вызначаецца і прыведзеным у канцы спісам выкарыстаных пісьмовых крыніц.

Нельга не сказаць і аб выдатным паліграфічным афармленні кнігі. Высакаякасная мелаваная папера, высокая якасць клішэ і малюнкаў, з густам імітаванае «пад даўніну» мастацкае афармленне (М. Купава, Я. Кулік), удала выбраны памер кнігі,— усё падпарадкавана асноўнай мэце: зацікавіць новым выданнем як мага большую колькасць людзей. Такімі, на наш погляд, і павінны быць кнігі, выпушчаныя з мэтай асветніцтва. (Успомнім, як многа ўдзяляў увагі сваім друкаваным выданням вялікі асветнік Ф. Скарына.)

Як ужо сведчыць вопыт распаўсюджвання «Гарадской геральдыкі Беларусі» (яе дзесяцітысячны тыраж разышоўся вельмі хутка), кніга несумненна зацікавіла не толькі гісторыкаў і краязнаўцаў, але і ўсіх тых, каго вабіць мінулае роднага краю. Несумненна, у карысць кнігі гаворыць і тое, што яе вартасці ацанілі кааператары, прынамсі, тая іх частка, якая займаецца вырабам памятных медалёў з гліны і металаў.

Але пры ўсім тым добрым, што ўжо было сказана пра «Гарадскую геральдыку Беларусі», нельга, лічым, не ўказаць на некаторыя хібы і недапрацоўкі. Яны звязаны з тлумачэннем гербавых выяў. Вельмі нязручна для чытача дадзены яны — у самым пачатку кнігі, у агульным артыкуле, калі хочацца бачыць іх непасрэдна пад каляровай выявай таго ці іншага герба. Ды і дадзены гэтыя тлумачэнні вельмі бегла, павярхоўна, іншы раз нават недакладна. А выявы ж на гербах гарадоў заўсёды даваліся невыпадкова. Герб — твар горада, ён павінен выконваць таксама і інфармацыйныя функцыі—расказваць аб той ці іншай гістарычнай падзеі альбо аб характэрным спосабе дзейнасці жыхароў, аб тым, хто ўладальнік горада і г. д. Калі гартаеш кнігу, прыходзіць думка, што аўтар не ставіў сабе за мэту разабрацца ва ўсім гэтым, альбо, мабыць, шмат чаго не знайшоў у архівах. Так, вельмі цяжка зараз аднаўляць страчанае, забытае, але гэта — неабходна. І калі ўжо вырашылі, што беларусы павінны ведаць пра гербы сваіх гарадоў, то трэба растлумачыць ім яшчэ, чаму яны менавіта такія.

Вось некалькі прыкладаў з кнігі. Тлумачыцца паходжанне герба г. Пружаны. Аўтар выказвае думку, што каралева Ганка Ягелонка дала такі герб гораду ў гонар сваёй маці Боны, якая валодала Пружанамі. Так, гэта бясспрэчна. Але далей узнікаюць сумненні. А. Цітоў піша, што гэта — герб італьянскага роду Сфорца на аснове таго, што радавы герб Сфорца меў блакітнае поле і сярэбранага вужа на ім. Але на гербе Пружан некалькі іншы сюжэт, вуж (альбо іншая змяя) праглынае дзіцёнка. Ёсць вельмі цікавая легенда, звязаная з каралевай Бонай, узнікненнем назвы горада і гэтай выявы на гербе. Яе пакуль яшчэ ніхто не абвергнуў, таму мы маем права прывесці яе тут: калі Бона ў чарговы раз аб'язджала свае землі, з ладдзі каралевы ў раку ўпаў дзіцёнак, яе паж, і патануў. Бона пракляла раку, пажадаўшы зрабіцца ёй «пружнай» (пустой), адсюль і назва горада — Пружаны. На гербе рака намалявана ў выглядзе змяі. Легенда даволі вядомая, і Ганка Ягелонка, жанчына адукаваная і рамантычная, цалкам магла зацікавіцца гэтай казкай пра сваю маці, каб пакінуць стагоддзям лепшы помнік Боне Сфорца — Пружанскі герб. Аб багатай фантазіі Ганкі Ягелонкі гаворыць і герб Камянца, дзе, акрамя дзевы Марыі з Ісусам, выява яшчэ адной святой — Ганны, патранэсы каралевы. Але, тлумачачы такім чынам малюнак на гербе, аўтар кнігі зноў дае няпоўную інфармацыю. Калі б Ганна жадала толькі ўвекавечыць сябе, яна магла б загадаць намаляваць на гербе толькі адну святую Ганну. З'яўленне ж на Камянецкім гербе адразу трох персанажаў Біблії нясе ўжо нейкі іншы сэнс. Які? З кнігі мы аб гэтым, на жаль, не даведаемся, таксама як не даведаемся, чаму на гербе Мінска ўзнясенне Маці Божай. Тлумачэнне гэтай выявы ў кнізе проста скажам, штучнае.

Няпоўная інфармацыя чакае нас і ў выпадку з вельмі цікавым гербам г. Ваўкавыска — «Выючы воўк». Аўтар у сувязі з гэтым доўга і цікава гаворыць пра неўраў, племя, якое лічыцца продкам сучасных беларусаў. Па паданні неўры раз у год ператвараліся ў ваўкоў. Гэтая ж здольнасць пазней прыпісвалася ворагамі наогул усім беларусам, але гэтага мы ўжо не прачытаем у А. Цітова. Ён раптам абрывае свой расказ і заяўляе, што на гербе Ваўкавыска воўк таму, што гэта характэрны для нашага эпаса і, наогул, мастацкі персанаж. Але ж з Ваўкавыскім гербам звязана таксама цікавая легенда. Калі ворагі выклікалі на бой мясцовае войска, насустрач ім з туману выбегла зграя ваўкоў. Ворагі, спалоханыя чуткамі пра здольнасць тутэйшых людзей раз у год станавіцца ваўкамі і ў такім выглядзе перагрызаць горла праціўнікам, у страху разбегліся. Воіны мясцовага князя, прыйшоўшы на поле бою, не адшукалі тых, хто іх выклікаў, аднак, убачыўшы звяроў, усё зразумелі. Так узнікла назва горада і выява на гербе.

Не зусім дакладна дадзена апісанне герба Жыровіч. На думку аўтара, на ім адлюстравана сцэна хрышчэння, «такім чынам, сюжэт гарадскога герба паказвае на характар мястэчка і ягонага ўладальніка». Але па ўсім бачна, што гэта — не хрышчэнне, а бласлаўленне, прычым хлопчык, што стаіць на каленях,— легендарны персанаж, пастушок, якому з'явілася ў сне Багародзіца і ўказала, дзе знайсці славутую жыровіцкую ікону. Па легендзе пастушком-сіратой людзі грэбавалі, крыўдзілі яго, потым, аднак, раскаяліся. Міласэрнасць, спагадлівасць, любоў да чалавека — вось што прапаведуе герб Жыровічаў.

Нямала пытанняў узнікае і ў адносінах да герба Ружан. Старое паданне аб паходжанні Ружан сцвярджае, што раней на гэтым месцы было капішча славянскай багіні Лады. Яно знаходзілася сярод натуральнага поля дзікіх руж. Ружы прыносілі людзі багіні ў ахвяру. На гербе ж мы бачым у акружэнні язычаскіх руж постаць праваслаўнага свяшчэнніка. Што гэта значыць? Перамогу праваслаўя над паганствам? Прымірэнне дзвюх рэлігій? Тлумачэнне павінна быць, а яго нам не далі.

Улічваючы ўсе заўвагі, можна парэкамендаваць А. Цітову дапоўніць сваю працу пры перавыданні кнігі. Што яно будзе, у гэтым няма ніякага сумнення. Бо кніга А. Цітова з'яўляецца грунтоўным доказам існавання беларускай нацыянальнай геральдычнай традыцыі.

**І. МАСЛЯНІЦЫНА,**
**М. БАГАДЗЯЖ.**

**ЧЫТАЮЧЫ ЧАСОПІСЫ**

# ЛЮБІЎ СВОЙ НАРОД...

**«Анталогія беларускага апавядання 20-х гадоў»... Гэтая рубрыка на старонках часопіса «Беларусь» заўсёды прыцягвае чытацкую ўвагу. Яе вядучы Яўген Лецка штораз адбірае для публікацыі творы аўтараў, якія доўгі час былі забыты. Вось і другі сёлетні нумар прынёс яшчэ адну радасць вяртання—тут друкуюцца апавяданні Вацлава Ластоўскага.**

**Прозвішча гэтае лімаўскія чытачы ўжо ведаюць. Не так даўно ў штотыднёвіку былі апублікаваны творы В. Ластоўскага з прадмовай Б. Сачанкі. Праўда, для чытачоў засталося невядома, што тая лімаўская публікацыя прабіла дарогу ў свет толькі з другога заходу. Першы ж раз, вычытаная ў карэктуры, яна была знята з газетных палос і заменена іншымі матэрыяламі—не па волі рэдакцыі, вядома...**

**Цяпер «Беларусь» друкуе тры апавяданні В. Ластоўскага, узятыя Я. Лецкам з часопіса «Крывіч». Ён быў заснаваны В. Ластоўскім у 1923 годзе ў сталіцы тагачаснай Літвы Каўнасе і выдаваўся да 1927 года. Я. Лецка слушна зазначае: «Давodзіцца толькі здзіўляцца працаздольнасці і шырыні творчага дыяпазону гэтага чалавека: вершы, проза, публіцыстыка, мастацтва і кнігазнаўства, і асабліва шмат матэрыялаў па старажытнасці, беларускай гісторыі, у тым ліку і ў такіх яе адгалінаваннях, якія, на жаль, засталіся па-належнаму не распрацаванымі і да нашага часу».**

**Спадзяёмся, што і гэтая частка творчай спадчыны В. Ластоўскага таксама прыйдзе да сучаснага чытача. А пакуль што — толькі тры апавяданні. Першае з іх, «Троцкі замак»,— гістарычны абразок. Аднак справа не ў жанры. «Троцкі замак»—удалая спроба В. Ластоўскага (не першая, вядома) сказаць сваё слова аб багатай гісторыі беларускага народа. З абразка бачна, што аўтар валодаў значнымі мастацкімі здольнасцямі. Няхай сабе манера яго пісьма не надта вобразнавыяўленчая, тым не менш відавочна схільнасць да пластычнасці малюнкаў, іх напоўненасці. За знешняй стрыманасцю радка—высокі напал пачуццяў апавядальніка. Тое, што ў яго на душы, выліваецца ў свайго роду эмацыянальны ўсплёск. І ў выніку адчуваеш, як тут, у замку і ля замка, прысутнічае сама мінуласць:**

**«Вуглавая круглая башта, а ў ёй круглыя вокны-стральніцы. Вецер дзьме ў круглае вакно, як у флейту, а башта—гугнівым голасам—на старасьвецкую вайсковую нотку—бубніць вызаў камусьці ў прасторы:**

Дай ў двубой, мы с табой
Сілай зьмерымся...

**Пугач высунуў вушатую галаву з рашчэліны муру, павёў кругом чырвоным вокам і заліўся пакоцістым сьмехам:— Гу-гу-гу—га-а!**

**Нехта са старога замку на беразе клікнуў яму ў адпаведзь: — Га-а—а!»**

**«Гу-гу-гу-гаа!»—смяецца пугач, рагоча «з круглае нарожнае вежы». І ў гэтым дзікім, нейкім поклічным гагатанні ажывае даўніна: «...з праразьлівай выразітасьцю ўявілася народная показка аб утопленым князю ў гэтым возеры, які пасьля сваёй сьмерці ў падводных скляпох сабраў дружыну, павесіў звон і што год на Вербніцу, у гадаўшчыну сваёй сьмерці, ўдарае адзін раз у звон, даючы знаць, што ён не закінуў сваіх думак».**

**Вацлаў Ластоўскі ўпэўнены: «Значна памяць народная не пазабыла свайго абаронцу». Менавіта ў гэтым замку, у Вербную нядзелю, у 1440 годзе быў задушаны «Зыгмунт Кестутавіч—сялянскі герой на княжым пасадзе» (у публікацыі захаваны колішні правапіс.— Н. А.).**

**Апавяданне «Вясковыя архэолёгі»—таксама вяртанне ў гісторыю, але вяртанне апасродкавае, асноўнае для В. Ластоўскага — расказ пра гаротнае жыццё вёскі Буды, якая «прыціснулася да ліпкай, гразкай зямлі з боязьні зрынуцца з гары ў возера», замерла «з гора, з бядоты». Жыццё ў вяскоўцаў сапраўды бядачае. Нішчымніца падрывае і здароўе кволых дзяцей. Праўда, здавалася б, ім пашэнціла. Свінні пачалі раскопваць валатоўкі, знайшоўшы там арэхі. Гэта заўважылі маленькія пастухі, «на другі дзень, ідучы на паству, хлапцы ўброіліся капагамі».**

**Ды не давялося ім надта паласавацца арэхамі. Усё заўважыў «пан пасрэднік», які праязджаў побач. Тое, што адбылося далей, прымушае па-новаму зірнуць на «эксплуататарскія класы». Аказваецца, хтохто, а яны з павагай адносіліся да гісторыі, добра разумелі, як неабходна беражліва ставіцца да даўніны. Разумелі, у адрозненне ад «гора-рэвалюцыянераў», якія так прагнулі цалкам знішчыць стары свет: «У вёсцы быў скліканы гвалтоўны, уздоймны сход. Пасрэднік доўга тлумачыў сялянам значэньне валатовак і патрэбу іх аберагаць, пагразіў штрафам на ўсю вёску за самавольную раскопку іх і, урэшце, запрапанаваў не штрафаваць вёскі, калі сяляне дабравольна самі, тут жа пры ім, пакараюць дзяцей».**

**«Вясковыя архэолёгі»—таксама пацвярджаюць, што В. Ластоўскі меў задаткі празаіка. Каб пераканацца ў гэтым, досыць прачытаць пададзены ім малюнак вёскі, якая «выцягнулася шнуром дрэўляных хат над возерам і заснула заварожаная, загледжаная згары ў дно возера». Заўважаецца ў творы і тонкі гумар.**

**Што тычыцца трэцяга твора, перадрукаванага «Беларуссю»— «Прыповесьць аб старым мужу і гожай дзеве», дык у ім В. Ластоўскі не ідзе далей фальклорнай асновы. Уся гаворка зводзіцца да народнага павучання: «Старыя мужы! да вас мова: у спакоі век жывіце, маладых жонак не бярыце». Чым вабіць «прыповесьць», дык своеасаблівасцю размоўна-бытавой аўтарскай мовы.**

**Публікацыю твораў В. Ластоўскага добра дапаўняе артыкул Я. Лецкі. У ім падрабязна расказана аб перыпетыях жыццёвага і творчага шляху пісьменніка, які ніхога «не абвінавачваў і ні на кога не крыўдаваў, а проста любіў свой народ, сваіх людзей. І гэтым самым, усёй дзейнасцю заслужыў пашану да сябе...».**

**НАШ АГЛЯДАЛЬНІК.**

Мая ж дабрэйшая бабуля
Малілася на абразы.
А доля долу яе гнула,
Нібыта вецер куст лазы.

Так спрацавалася нябога —
Спачыла толькі у зямлі.
Бо несла ў сэрцы яна бога,
А мы бязбожнікі былі.

І не хацелі, не хацелі
Пазнаць ні потым, ні спярша,
Што у старэнькім гэтым целе
Жыла высокая душа.

І сёння разумею тое,
Прайшоўшы тысячы дарог,
Што трэба верыць у святое,
Што ёсць у кожнага свой бог.

## *Чарнобыльскі вецер*

Чарнобыльскі вецер у дзверы
пастукаў,
І я адчыніў яму смутныя дзверы
І проста спытаў яго: —
Вецер, паслухай,
Якія прынёс нам рэнтгены і бэры?

Чарнобыльскі вецер, з якое нагоды
Сюды прыляцеў, хіба ж я цябе клікаў?
Ты знішчыў дыханнем палову прыроды
І цэзіем цэлы народ мой засыпаў.

Да вёскі маёй ты знячэўку падкраўся,
І студні цвікамі забілі вяскоўцы.
І тая рачулка, што калісь купаўся,
Ужо не пагладзіць мяне па галоўцы.

І долу дубровы схілілі галовы
У ранняй сваёй сівізне-пазалоце.
І пойдуць дубровы, напэўна, на дровы,
Альбо застануцца стаяць у самоце.

Ну што ты марудзіш, чарнобыльскі
вецер,
З адказам, ці, можа, сказаць што,
не маеш?
...Маўчала зямля, і маўчала дасвецце,
А сон наяву ты ўжо забываеш.

●

Не толькі бацькава віна,
Што верыў ён у Сталіна.
Той для яго быў цар і бог,
І бацька Сталіна бярог.

Бо ён не знаў яшчэ пра культ.
І дня на схіле не дазнаўся.
Ён нёс жыцця нялёгкі куль
І ад цяжару аж хістаўся.

Калгаснік, ведаў ён адно,
Што старшыня — усемагутны.
І піў пахмурнае віно.
І доўжыў лёс свой шматпакутны.

Чатыры класы за спіной,
Вайна таксама за спіною.
Ён бараніўся прада мной
Сваёй Айчыннаю вайною.

— Вось ты вучоны, — гаварыў, —
Ты растлумач мне, небараку,
Куды падзеўся той парыў,
Што узнімаў нас у атаку?

Куды падзеўся той парыў?.. —
Ён гаварыў і гаварыў...

●

Можна жыць і без мовы...
Як ні дзіўна, жывуць.
І цяжар стопудовы
Мне на сэрца кладуць.

Ці пахмура, ці ясна,
На адным я стаю:
Не хавайце дачасна
Мову, маці сваю.

Памяць хай уладарыць
Па-над цвіллю аблог.
Мяне можаце ўдарыць,
Толькі мову — крый бог!..

Горкі лёс ці салодкі,
Што ж не йдзем талакой.
Не даруюць нам продкі
Непавагі такой.

●

Такая дзіўная пара,
Я ўсе забыў дарэшты словы.
І ўжо не цягне да пяра,
А цягне у прастор зімовы.

І ўжо няўлоўны снегапад
Лаўлю гарачымі рукамі.
І, як дзіця, бязмежна рад
Паладзіць са снегавікамі.

Якая дзіўная пара.
Мяцеліцай прамчацца коні.
І свет са цноты і дабра
Перад табой, як на далоні.

Уладзіслаў РУБАНАЎ



# ЧАЛАВЕК З ГАРМОНІКАМ

*АПАВЯДАННЕ*

мяне апярэдзіў Шурачка, які, здавалася, нас не слухаў, заўзята рыпаў на гармоніку:

— Маўчаць!

Дзядзька Тамаш з ганарыстай і незалежнай душою шляхцюка, якога нават у спякоту ніхто не мог прымусіць скінуць з плячэй пінжак, грэбліва махнуў рукою: сядзі, чалавеча, спакойна.

— Маўчаць! — Шызаватасць у Шурачкі на твары аж забарвовела, рука спрытна саслізнула з пішчыкаў да сцягна. Дзядзька Тамаш здзіўлена ўпярыўся на мяне, быццам пытаўся: што ўсё-ткі ён хоча? І праўда, Шурачкавы паводзіны былі нязвыклыя, і я не мог іх вытлумачыць. Шурачка разбураў усякія пачынанні, што намячаліся ў застоллі, хоць сярод незнаёмых павінен быў трымацца сціпла, прынамсі, не так задзірліва.

Шурачка ўзяў са стала чарку і, глыкнуўшы яе, зноў расцягнуў абшарпаныя мяхі гармоніка.

Як асцюк трапляе за каўнер і муляе, так Шурачка муліў у нашай ціхамірнай, неназойлівай зборні сваякоў. Цікаўнасць перарастала ў загадкавасць, ад якой было недалёка ўжо да таямніцы. Здавалася, у Шурачкі ўсюды ёсць вочы і вушы. Варта было мне падсесці да швагра, рукі якога да локцяў былі сінія ад татуіроўкі, анекдотчыка і веселуна, як і там мяне прашыла куляю Шурачкава «маўчаць!» Швагер спакойна спытаў у мяне, кінуўшы на Шурачку:

— Чаму ён не ўгамуецца?

— Каб жа я ведаў.

Швагер устаў і, дэманструючы сваю рашучасць і сілу, узяў рукі ў бокі. Шурачка не зважаў на яго, іграў, прытуліўшы вуха да гармоніка. Верхняе адтапырылася, як лакатар. Вочы былі прыплюшчаны, толькі вейкі ўздрыгвалі, бы ў цяляці, якое джаляць авадні.

Мяне гэты Шурачка скаваў. Я не зводзіў з яго вачэй, баючыся да каго-небудзь загаварыць, каб не быць спыненым грозным «маўчаць!» У трывозе, душэўнай безладзі я міжволі перабіраў мноства, часам неверагодных небяспек, якія падсцерагаюць чалавека. Святочнага настрою я не адчуваў. Заміж таго, каб забыцца на ўсё, на жыццёвую сумятню і з хмельнай ласкі пусціць душу ў прыволле лёгкай і пуставатай гаманы, я ўкруціў сябе ў вір неадчэпных думак пра Шурачку. Не браў я пад сумненне аднаго: гэтае ягонае «маўчаць!» — не слова-паразіт, што аздабляе гаворку ледзь не кожнага, і не п'янае трызненне, абы павыдурняцца, а водгулле далёкіх дзён, тых часоў, калі душа выяўляла сваю існасць, сцвярджала сябе ў жыццёвай праўдзе.

Нязмушана сябе адчувалі, здаецца, адны жанчыны. Толькі цешча пасля таго, як яе груба абарваў Шурачка, кружыла каля сталоў з талеркамі ў руках з нязвыклай для яе засяроджанасцю ў вачах. Ён, мабыць, параніў яе самалюбства прызнанай спявачкі.

Але вось што дзіўна: усе весяліліся не так, як зазвычай весяляцца ў застоллі. І віною таму быў Шурачка. Ягонае «маўчаць!», нябачнае, бы здань, ад якой усім страшна, цяжка вісела ў пакоі, зусім цесным ад чатырох сумешчаных сталоў.

Калі ўсе пад нечыя запросіны браліся выпіваць, Шурачка падымаў сваю чарку, а пасля доўга цэліўся, куды яе прыткнуць між талерак. Людзі закусвалі, а ён сядзеў пануры і задуменны. Хвіліны праз тры-чатыры пачынаў наярваць, і толькі ў нейкі аднаму яму вядомы момант заціскаў двума пальцамі, бы абцугамі, чарку і перакульваў яе ў рот. Амаль не закусваў, адно праводзіў даланёю па сініх сухіх губах. Па лысіне ягонай скакала бліскаўка ад лямпачкі. Рожкі валасоў тырчалі ўверх, як антэны.

Да мяне падышоў цесць — зграбны, маладжавы на свае пяцьдзесят пяць, палажыў руку на плячо і ціхім голасам сказаў:

— Не звяртай, Віця, на яго ўвагі. Відаць, не аднаго ў свой час ухайдокаў...

Каб узгарэлася полымя ісціны, часам даволі іскрыны здагадкі. Гэтую іскрыну выкрасаў сваімі словамі цесць, і ў маёй галаве вобміг усё праяснілася: гэты Шурачка — сталінскі энкэвэдэшнік. Стары, забыты, адрынуты. Цяпер, пенсіянер, мусіць, дажывае свой век у дакоры, ва ўспамінах ды яшчэ, можа, у нікім няўведанай тузе. Вось і просты цесць: убачыў жа, што мяне даканаў гэты Шурачка, і здагадаўся, хто ён такі. А можа, і не варта шмат заслуг прыпісваць цесцю, можа, бабуля паспела распавесці яму пра суседа, які з месяц таму засяліўся ў кватэру. Зрэшты, гэта не так важна. Факт, туман рассейваўся, выяўляючы праўдзівы малюнак. Але — я не стаў пачувацца лепш. Фантазія падзьмула на мяне знобкім халадком, а тады калючай жарствою 30-х гадоў: начныя «варанкі», нечакана-трывожны выпад святла з акна ў цемру, плач дзяцей, камеры, допыты, чэргі, этапы... Пра ўсё гэта апошнім часам багата пісалі ў газетах і часопісах. Шурачка быў тады малады дзяцюк, і цяпер, ужо ў гадах, ён ніяк не мог адкараскацца ад мінулага: і адчужанасць, і словы ягонае, і падбор адзення па колеры сведчылі, што ён жыў у тым ранейшым часе. У гэтым кепскага нічога не было, гледзячы што яго туды вабіла, што ён там пакінуў. Я ўжо думаў: калі б Шурачка не піў, ён бы і не выкрыкваў гэтае сваё жудаснае «маўчаць!» Гарэлка расслабіла яго, даўшы рух прытоеным у падсвядомасці пачуццям.

Узаемаадносіны людзей — гэта назойлівае распазнанне чалавечай душы, выяўленне ў ёй кепскага і добрага. Навошта гэта патрэбна чалавеку, які і сам не без недахопаў, астаецца для мяне загадкаю. Я ўжо глядзеў на Шурачку зусім інакшымі вачыма, без насцярогі і дзіўлення. Усё стала на свае месца: небарака Шурачка — ахвяра часу. У мяне нават неўспадзеўкі абудзілася шкадоба да яго. Ён сярод нас чужы, як востраў у моры, непрыкаяны, ратуецца гэтым сваім адзіным вокрыкам.

Здаецца, я раскілзаў душу. Мне хацелася весяліцца. Да гэтага змушала і сакатлівая Янэчка, старэйшая дачка дзядзькі Тамаша. Яна да кожнага знаходзіла зачэпку. Я згадзіўся б, што яна легкадумная і нават абмежаваная, калі б не яе любоў да чытання. Янэчка чытала ўсё, што лучала пад руку, — кнігі, часопісы, газеты. Стоячы каля пліты над патэльняю, прыладкоўвала збоч кнігу. Мая жонка была ў захапленні ад Янэчкі, лічыла: гэтая прага чытаць — яскравая прыкмета эмансіпацыі. Я думаў крыху інакш: гэта, вядома, добра пры ўмове, што не церпіць сям'я, муж, дзеці, гаспадарка. Захапіцца нечым адным і занядбаць усё астатняе, без чаго няможна ўявіць жыцця, не так ужо турботліва і не богведама які гонар. Але так меркавалі мы з жонкаю адзін на адзін. Пры Янэчцы мы такой размовы не заводзілі, але яна сама ахвотна ўцягвала ў яе.

Убачыўшы, што я павесялела, заварушыўся, яна падышла і, як заўсёды, штурханула ў плячо. У яе быў белы кругленькі, як мяч, тварык, гладкая, без маршчын шыя, налітыя, цяжкаватыя рукі з глыбокімі ямачкамі на локцях. Порсткімі смародзінамі блішчалі блізенька пасаджаныя вочы.

— Калі ты ўжо, Віцюня, мне кнігу сваю падпішаш?

— А што, ты і на беларускай мове чытаеш? — прытворна здзівіўся я.

— На любой! — Яна грубавата рагатнула. — На рускай, польскай, беларускай, ангельскай.

— Во малайчына! Што ж ты не прызналася — ужо даўно б падпісаў. Цяпер так мала людзей чытае па-беларуску...

— Маўчаць! — бы стрэл, ляснула адтуль, дзе сядзеў Шурачка. Яму было ўжо цяжка падымаць галаву ад гармоніка. Ён ускінуў уверх кулак і патузаў ім, як бы страляў у столь з пісталета. — Маўчаць!

Шурачка зусім ацяжэў. Ён піў шмат, не пільнуючыся тостаў і прапаноў, акурат прывык піць на адзіноце. «Ён саспеў, і яму пара ісці дахаты», — падумаў я. Але дахаты збіраліся астатнія госці, а Шурачка сядзеў. Ківаўся, крахтаў, але азадак яе прымёрз да табурэткі. Па моцным голасе адчувалася, што Шурачка яшчэ цяміць. І з мелодыі гармонік не збіваўся, кароценькія пальцы, падобныя на прысоскі васьмінога, гнутка варушыліся на пішчыках.

На Шурачку ўжо мала хто зважаў. Дзядзька Тамаш запрашаў мяне выпіць «на дарожку». Я не мог яму адмовіць, бо крыўда для шляхцюка магла быць смяротная.

Каля стала па-ранейшаму тырчаў толькі Шурачка. Відаць было, што госці яго мала займалі, ён быў ва ўладзе песні. Песня так сабе, я шмат разоў чуў яе ў дзяцінстве, нават развучваў у школе.

Каб не замінаць гасцям у вузенькай вітальні, я завярнуў на кухню.

Быў позні час.

Я стаяў на кухні і глядзеў праз акно ў блізкую, чорную цемру, у якой патануў чысты, зялёны гарадок-райцэнтр. З фортачкі мне ў твар струменіла свежае вільготнае паветра з вастраватым водарам язміну, што кусціўся каля дома пад бабуліным акном. Цяпер ён цвіў, і праз фіялетавае шкло кветкі ягоныя былі салатава-жоўтыя на колер. Якраз такога ж колеру заляцеў на кухню і біўся ў акно вялікі начны матыль. Ад калмаценькіх крылцаў на шкле заставаліся плямы пылку. Я ўзяў са стала газету і падкіраваў матыля да фортачкі. Ён мільгануў за акном, як сняжынка, знік у цемры.

Мне прыемна было адчуваць, што я вызваліў з палону жывую істоту. Любы, нават нязначны замах на волю — страшны. Навязалася скульсці бязглуздая думка, быццам адкрылася мне сёння вялікая таямніца быцця. Гэта неймаверна радасная хвіліна, яе трэба лавіць гадамі, а прыходзіць яна імгненна і невядома па якой прычыне.

Заглянула на кухню жонка. Твар у яе быў змарнелы.

— Ну, што, муж, будзем класціся спаць, а посуд заўтра прыбярэм? — спытала, гледзячы на мяне з дапытлівасцю.

— А ён? — кіўнуў я на сцяну, за якою быў пакой.

Жонка не зразумела. Я далікатна ўзяў яе за руку і павёў у пакой.

Шурачка ляжаў на падлозе, абхапіўшы рукамі гармонік, і твар ягоны быў па-дзіцячы бяскрыўдны, рахманы.

Ганарар за апавяданне аўтар просіць пералічыць на будаўніцтва помніка ахвярам сталінскіх рэпрэсій у Курапатах.

# ТЭАТР НАШ ВЯЛІКІ...

**Погляд «знутры»**

ПЭЎНА, можна сказаць, што ўсё жыццё тэатра — гэта штодзённы пошук шляхоў вырашэння разнастайных праблем. І не толькі творчых. Аднак, зразумела, да канчатковага вырашэння такіх праблем вельмі далёка, бо мастацтва ж не існуе само па сабе, у адрыве ад агульнага грамадскага развіцця, дзе сёння столькі нявырашанага. Аднак насцярожвае той факт, што некаторыя набалелыя нашы праблемы на працягу многіх гадоў нават проста не ўзнімаюцца, не дасягаюць старонак прэсы,— відаць з-за сваёй «дробязнасці» на фоне вялікіх супярэчнасцей нашага вялікага тэатра...

Тэатр, асабліва оперны,— гэта, як вядома, найскладаны арганізм. Усе без выключэння вытворча-творчыя аперацыі тут выконваюць людзі, «прадукт» іх супольнай працы вельмі спецыфічны. Таму не будзе памылкай дапусціць, што і метады кіравання такім калектывам істотна павінны адрозніваюцца ад вытворчасці.

Тое, што ДАВТ БССР перажывае не лепшую сваю часіну, хвалюе многіх людзей, і аматараў оперна-балетнага мастацтва, і тых, хто аддае свае сілы тэатру, працуе там. Для гэтых апошніх становішча складанае: менавіта ад іх залежаць поспехі тэатральнага мастацтва, ды ў той жа час яны самі, іх жыццё залежаць ад арганізацыі і развіцця тэатральнай справы. Кожны на сваім месцы сваімі намаганнямі спрыяе канчатковым вынікам, скажам, прэм'ернай працы і адпаведна спадзяецца, што агульныя дасягненні будуць лепшым чынам уплываць на яго ны лёс, жыццё. Спадзяванні, аднак, часцяком і застаюцца спадзяваннямі.

Многіх работнікаў тэатра пасапраўднаму трывожыць ягоны выканаўчы ўзровень, творчы патэнцыял, прэстыж, будучыня і г. д. Але спадзявацца на лепшае толькі таму, што шмат разоў падзеліўшся сваімі нягодамі ды меркаваннямі з таварышам па працы,— утопія. «Закансерваваныя» праблемы ды ідэі самі па сабе мала чаго каштуюць. Ім неабходны абмеркаванні, палеміка, інтэлектуал-аўдыторыя, атмасфера адкрытасці, выхад «на інстанцыі». Мы ўжо неаднойчы пераконваліся, што не лепшым спосабам вырашэння складаных праблем з'яўляецца іх «ціхае» накопліванне — яно, як правіла, вядзе да мітынговых і забастовачных «выбухаў», накшталт таго, што адбылося ў Дзяржаўным тэатры музкамедыі БССР.

Мяне, як артыста аркестра, знаёмага не на словах са спецыфікай аркестравай працы, не вельмі здзівіла здарэнне ў тэатры музкамедыі, бо я ведаю, што такое 25—30 спектакляў за месяц, без уліку рэпетыцый. І ўсё гэта за нейкіх 120—140 рублёў!

Пагаворым-пагаворым на цэхавых сходах, выгаварымся і разыдземся ні з чым — менавіта гэтак ужо на працягу многіх гадоў пачынаецца ў ДАВТе кожны тэатральны сезон. Ствараецца ўражанне, што гэта самы важны і адказны момант у «запуску» тэатральнага механізма для нашай адміністрацыі: на такіх сходах гучыць слушная крытыка на яе адрас, успамінаюцца не лепшыя моманты мінулага сезона, а ў адказ... зачытваюцца справаздачы пра зробленае. І, як мне здаецца, бяда не ў тым, што тэатральная адміністрацыя не вырашае пэўнае пытанне, а хутчэй у тым, што не мае для гэтага магчымасцяў (асабліва, калі гаворка пра фінансы). Як бы там ні было, людзі чакаюць плённых вынікаў. Вось і ўзнікае сталая расколіна ў калектыве паміж адміністрацыяй і «ўсімі астатнімі», а без адзінства ў калектыве хіба можна вырашыць праблемы? І «маленькія» і вялікія,— яны знаходзяцца ў цеснай узаемасувязі, вырашаць іх лягчэй было б комплексна, бо, як паўтараюць знаўцы мастацтва, у тэатры няма дробязяў...

**ВЕЛІЗАРНЫ творчы, інтэлектуальны, мастацкі патэнцыял ёсць у нашым тэатры, але ўражанне такое, быццам існуе ён у *выглядзе адасобленых асабістых думак* і аўтарытэтаў. Здаецца, кожны нібы прымервае тэатр да сябе, да сваіх здольнасцяў, а не наадварот! Хоць у тэатрах распрацавана ідэальная, на першы погляд, сістэма мастацкіх саветаў, цэхкомаў, пэўныя ролі адводзяцца прафкому, камсамолу... (Усё гэта прызначана для таго, каб акумуляваць лепшае, адбіраць толькі патрэбнае і г. д.). Бясспрэчна, што галоўныя дырыжор, рэжысёр, балетмайстар—аснова жыцця любога тэатра, ад іх залежыць вельмі многа. Аднак ці можна сцвярджаць адназначна, што замена аднаго з іх, або нават усіх разам можа паспрыяць вырашэнню праблем, сабраных за многія гады? *Складанае пытанне.* А што датычыць саміх «працэсаў» замены аднаго галоўнага спецыяліста іншым, дык гэта наогул (так павялося) закрытая тэма для друку і — «не наша справа». Ды, зрэшты, і не вельмі людзей цягне разбірацца: прыйдуць вечарам на работу, на спектакль, а ў зале ўсе фінансавыя і нефінансавыя складанасці, як на далоні...**

**Згадайце за апошнія дзесяць гадоў нашу працу. У кожнага, *вядома,* могуць быць наконт гэтага свае думкі, але ж хіба не відавочна, што пасля Я. А. Вашчака агульны ўзровень тэатра знізіўся (і гэта асабліва відаць у аркестры), хаця нас і цяпер яшчэ часцяком нахвальваюць. Думаю, што перыяд, калі Вашчак быў галоўным дырыжорам, застанецца вяхой у гісторыі ДАВТа БССР. І тады, і потым, калі за пульт станавіўся ён, кожны з нас адчуваў ва ўсіх складанасцях працэс узнаўлення той музыкі, якую мы выконвалі разам з ім, прапускаючы праз свае пачуцці ўвесь псіхалагізм, драматургію твора. Ніводны ўдзельнік спектакля не мог працаваць напаўсілы. Стараннасць, адданасць музыцы не былі тэарэтычнымі догмамі —гэта былі асноўныя прафесійныя катэгорыі, паводле якіх ладзіліся ўсе іншыя крытэрыі артыстычнага таленту.**

**Праца без натхнення лічылася бракам.**

**Вядома, гэта і сёння вызначае *ігру музыкантаў нашага аркестра,* і ўсе мае згадкі не для таго, каб папракаць нашых дырыжораў, а для таго, каб нам разам задумацца над тым, што мы непрыкметна для сябе пакрысе разгубілі ў апошнія дзесяць гадоў. Дарэчы, і ў тыя гады існавалі амаль усе сённяшнія праблемы...**

**А людзі быццам бы разгубіліся: з аднаго боку ёсць вялікае жаданне перамен, новага, а з другога — *нейкая нерашучасць.* Многія, відаць, спадзяюцца на іншых, а то і проста не хочуць развітвацца з прывычным. І па сутнасці нічога новага ў вытворчай сістэме ДАВТа не робіцца! Скажам, праведзены тэатральны эксперымент, а вось што гэта такое—і цяпер ніхто не можа адказаць толкам. Амаль усе два гады, на працягу якіх мы (а можа, *над намі?*) эксперыментавалі, усе хадзілі і пыталі адзін у аднаго: «Дык мы ў эксперыменце ці не? А што гэта такое?» Атрымаўшы раз-другі «прэміі» па 8—10 рублёў, перасталі пытаць, а ў дадатак даведаліся, што дырэктар наш яшчэ штраф атрымаў, бо парушыў нейкія інструкцыі, калі нам выдзяляліся тыя гора-прэміі.**

**Не ведаю (і не па сваёй віне), выйшлі мы з эксперыменту ці не, а нам паведамляюць ужо, што пераходзім на новыя формы гаспадарання. Добра гэта ці дрэнна, падыходзіць—не падыходзіць, згодныя мы ці не—нічога такога ў нас не запыталі, і зноў жа толкам ніхто, мусіць, не ведае, як будзем па-новаму гаспадарыць. Відаць, трэба так разумець: вы, галоўнае, працуйце добра, а ўсё астатняе—не вашага розуму справа: новы метад *гарантуе будучыя поспехі!* Не палезем у эканамічныя нетры—гэта па-сапраўднаму складаная справа. Але ж як бы там ні было, асноўная, канчатковая мэта, мусіць, у тым, каб павысіць творчыя паказчыкі, дамагчыся новага якаснага ўзроўню тэатральнага мастацтва. Ды вось абяцаюць павышэнне зарплаты ў 4-м квартале 1990 г. работнікам культуры. Дык што? Усё пойдзе на лад? А да канца ж года шмат часу. І многае яшчэ можна загубіць... Не ўсё ж грошы вырашаюць, і не толькі памеры зарплаты—корань праблем. Чаму дзесьці па-за межамі абмеркаванняў засталіся праг*рамныя пытанні:* што намерваюцца рабіць нашы лідэры культурнага фронту, якое прапануюць выйсце са складанага становішча ў тэатральнай справе? Здаецца, людзі павінны ведаць пра гэта: і аматары, і прафесіяналы.**

**Што ж, зноў будзем працаваць інтуітыўным метадам, заклікаючы на дапамогу рэпертуар? Зноў усе надзеі звядзём у адну: на новага мастацкага кіраўніка, галоўнага дырыжора (нават калі і самі выбралі яго ўсім нашым калектывам)? Відаць, гэтага будзе малавата. Не абысціся без рэформаў, бо касметычныя метады—гэта ўжо было, і не трэба зноў цешыць сябе ілюзіямі, трэба як мага хутчэй стварыць умовы для працы па *вялікім рахунку, на ўзроўні* ўмацавання і развіцця сваіх асноў, традыцый і г. д.**

ВЯДОМА, праблемы існуюць ва ўсіх цэхах нашага тэатра. Я, натуральна, засяроджваюся на «аркестравых цяжкасцях». Гэта словазлучэнне гучыць крыху парадаксальна, бо большасць нашых музыкантаў — сапраўдныя прафесіяналы, якія ў плане выканальніцтва паспяхова перадольваюць любыя аркестравыя цяжкасці. Аднак аркестр ужо на працягу многіх гадоў не можа пазбавіцца цэлага шэрагу празаічных праблем, вырашэння якіх ён, здавалася б, даўно заслужыў сваім высокім выканаўчым узроўнем.

Вось, да прыкладу, месячныя працоўныя нормы. Яны як і раней застаюцца на ўзроўні ваеннага часу — 24—27 спектакляў у месяц, не ўлічваючы пры гэтым амаль штодзённых рэпетыцый. Можа, сёй-той палічыць, што ў гэтым нічога страшнага няма? Для параўнання скажу, што ў філарманічным аркестры норма — 8 канцэртаў у месяц (а ахоўная — 12). Да таго ж, улік адпрацаваных спектакляў вядзецца пакварталььна, г. зн. перапрацоўка можа быць аплачана артысту аркестра толькі ў канцы квартала, пры ўмове перавышэння «ахоўнай нормы»... Праўда, на практыцы па 25—27 спектакляў у месяц не адпрацоўваюць апошнім часам ніхто з нашых аркестрантаў (гэта бывае ў час школьных канікулаў), але дзеля чаго ўводзіць такое «нарміраванне», што і каму яно дае? Чаму, у такім выпадку, наша адміністрацыя так і не пагадзілася ўзаконіць нашы прапановы наконт «паспектакльнай» аплаты? Дадам, што на сённяшні дзень наш ДАВТ ці не «ў адзіноце» застаўся, пасля ўсесаюзнага тэатральнага эксперыменту, з такімі «нормамі».

Усе мы былі сведкамі загаду дырэктара аб камандзіроўках па пераймальнні вопыту ў іншых тэатрах краіны, але, як выявілася, нам не прыдаліся перамены ні Талінскага, ні Львоўскага, ні іншых тэатраў. Пра Талінскі ведаем дакладна: норма—24 выклікі на месяц. З іх 10—занятасць у рэпетыцыях, 14—у спектаклях, а ўсё, што звыш гэтых норм, вядома, аплачваецца асобна. Ізноў падкрэслю: справа не толькі ў грошах. Папершае, такія нормы бачацца добрым прыкладам сацыяльных гарантый музыкантаў і вызвалення іх працы. Па-другое, маецца тут і творчы аспект: колькаснае планаванне рэпетыцый не заўсёды апраўдана, часцяком мы рэпецыруем выключна дзеля занятасці, а не з-за неабходнасці. (Пры такой, больш жорсткай сістэме, без усялякіх грашовых аперацый цэны на працу аркестравага музыканта ўзнімаюцца, з'яўляецца неабходнасць больш прадукцыйна распараджацца рэпетыцыйным часам, ды і на рэпетыцыях працаваць больш інтэнсіўна, з большай аддачай). Патрэцяе, усё гэта мае непасрэднае дачыненне да прэстыжнасці самой працы аркестравага музыканта нашага тэатра, якая, не сакрэт, вельмі знізілася ў апошнія гады.

Прэстыж працы ў аркестры ДАВТа БССР па традыцыі складаўся не толькі з памераў заробку. Але ж сёння кожны, хто цікавіцца наконт работы ў тэатры, міжволі «крывіцца», пачуўшы, што яго колішні аднакурснік па кансерваторыі зарабляе ў месяц 150—160 рублёў, бо гэта заўсёды аказваецца менш, чым у тых, хто паводле размеркавання трапіў у іншыя калектывы, музычныя вучылішчы (так і хочацца сказаць — «у менш прэстыжныя ўстановы»). Супастаўляючы гэтыя сумы з узроўнем і аб'ёмам працы нашага аркестра, музыканты выказваюць, так бы мовіць, пачуцці прафесійнага спачування і простай чалавечай салідарнасці.

Мала таго. Працуючы ў цяперашнім рэжыме, людзі вельмі стамляюцца ўжо к сярэдзіне тэатральнага сезона. Яшчэ цяжэй многім даводзіцца на гастролях, дзе немагчыма выкарыстоўваць дапамогу нашых калег з іншых мінскіх аркестраў, што практыкуецца пад час працы на стацыянары. Зразумела, усё гэта вядзе да праблем фарміравання штатнага складу калектыву.

АРКЕСТР — гэта той калектыў, які мае творчыя стасункі і з операй, і з балетам, непасрэдна кантактуе ў працэсе станаўлення спектакляў з мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам тэатра, разам з усімі «цэхамі» перажывае і поспехі, і няўдачы. Таму і праблемы агульнатэатральныя праходзяць праз аркестр, так ці інакш кранаюць лёс людзей. На мой погляд, вельмі памыляецца той, хто думае, што артысту ўсё роўна, што спяваць, іграць ці танцаваць — абы грошы плацілі. Гэта далёка не так. Я нагадаю, што працаўнікі творчых цэхаў тэатра пераважна прафесіяналы высокаадукаваныя, таленавітыя, неабыякавыя да сваёй справы, да тэатра наогул. У перыяд «эксперыменту», як заўсёды на пачатку новага, усіх апанавалі надзеі на лепшае. Хто больш, хто менш — паверылі ў перамены, за справу ўзяліся з новымі сіламі. Менавіта тады калектыў тэатра з дырыжорам Г. Праватаравым адолеў найскладаныя творы оперна-балетнага рэпертуару: «Вайна і мір» С. Пракоф'ева, «Кавалер руж» Р. Штрауса, «Вясна свяшчэнная» І. Стравінскага. (Была і няўдалая спроба паставіць «Дэмана» А. Рубінштэйна). Пра гэтыя спектаклі былі розныя, нават супярэчлівыя водгукі. Напрыклад, амаль усе, з аднаго боку, не пагаджаючыся з самой задумкай ставіць таго ж «Кавалера руж», з другога—атрымалі задавальненне, калі гэты найскладаны твор сусветнага опернага мастацтва быў адолены сіламі нашага тэатра. Або «Вясна свяшчэнная» — твор архіскладаны для аркестравага выканальніцтва, для дырыжора: з ім таксама справіўся, і даволі паспяхова, наш аркестр. Прыступкай творчага росту сталася «Вайна і мір». Ды справа не толькі ў гэтым. Тэатр без гледачоў, без слухачоў — вось праблематыка большасці пастановак.

**Рэпертуарная палітыка і слухач—найбольш вострая, на маю думку, праблема нашага ДАВТа. Вось тут мы не маем канкрэтнасці дзяржаўна-культурнай пазіцыі. Як аб'яднаць у адзін працэс вырашэнне пытанняў творчага росту, развіцця нацыянальна адметнага тэатра з адначасовым павелічэннем ролі тэатральнага мастацтва ў духоўным выхаванні нашага народа на лепшых узорах сусветнага оперна-балетнага рэпертуару? Мы перажываем за страту аўдыторыі на оперных спектаклях, сімфанічных канцэртах, гаворачы, што мы, работнікі і кіраўнікі культуры, быццам бы і *не вінаватыя ні ў чым: як працавалі, так і працуем.* Ці не фальшывім? Ці не лепш пачаць адкрытыя, шчырыя, прынцыповыя абмеркаванні таго, што ўсе мы бачым? Адзін раз на «Дон Карласе» зала поўная, а праз два тыдні — амаль пустая, хоць спектакль пад кіраўніцтвам А. Анісімава прайшоў выдатна. На «Вайну і мір» нешта людзі не ідуць. Ад «валютнай» пракоф'еўскай «Маддалены», відаць, таксама чакалі значна большага. Дарэчы, правялі фестываль «Пяць дзён з С. Пракоф'евым», але ці атрымалася з гэтага рэпетыцыя да больш значнага міжнароднага фестывалю, які плануюць правесці ў Мінску ў будучым?**

***Гэтыя і падобныя* пытанні павінны ставіцца на парадак дня тэатральных сходаў, людзі павінны мець магчымасць свабодна выказваць свае думкі, каб адчуваць сябе паўнацэннымі прадстаўнікамі мастацтва. Справаздачы, перапоўненыя лічбамі, працэнтамі, агульнымі фразамі, мала пра што гавораць музыкантам, якія вымушаны працаваць у *напалову пустой зале,* а потым выслухоўваць на сходзе, што ў параўнанні з мінулым сезонам нешта там палепшала на два працэнты. Менавіта гэткая завядзёнка робіць людзей раўнадушнымі да агульных спраў тэатра, спрыяе песімістычнаму настрою, нявечыць веру ў тое, што яны здольныя змяніць становішча ў калектыве. Менавіта на гэтай глебе ўзрастаюць праблемы этычнага характару ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі і нават намячаецца антаганістычнае размежаванне паміж «цэхамі».**

Запытаемся ў старэйшых калег па працы, і яны скажуць, што раней у тэатры было цікавей, адносіны паміж людзьмі былі іншыя, словам, унутраны мікраклімат спрыяў творчасці, дапамагаў у працы. Ды і сам я памятаю, наколькі прэстыжным лічылася працаваць у аркестры опернага тэатра. Канечне, касцяк аркестра трымае свой высокі ўзровень, захаваліся і высокія конкурсныя патрабаванні пры замяшчэнні штатных вакансій. У той жа час, па розных прычынах з калектыву пайшлі многія здольныя музыканты.

На жаль,— пра гэта трэба гаварыць! — аркестр пакінулі і некаторыя вядучыя музыканты, як, скажам, бліскучы першы трубач Я. Галынскі. Трэба прызнаць, што эміграцыя музыканта такога ўзроўню сталася сапраўднай стратай не проста для аркестра, але і наогул для тэатра. Бо Я. Галынскі быў не толькі трубачом экстра-класа, але і актыўным, аўтарытэтным членам калектыву. Ён адпрацаваў у тэатры 23 гады і пакінуў значны след у фарміраванні выканаўчага стылю ў аркестры. На ягоную ігру раўняліся амаль усе, хто працаваў поруч. Музыканту такога ўзроўню можна

смела даваць ганаровае званне «заслужанага», бо яно на самай справе заслужана за 23 гады самаадданай працы. Ведаючы Я. Галынскага больш за 10 гадоў, магу сцвярджаць, што ён дабіўся ўсяго сваёй працай як музыкант, фанатычна адданы свайму інструменту,— такія і вызначаюць той высокі ўзровень выканальніцтва, дасягнуць якога імкнуцца ўсе астатнія. Хто ведае, ці павярнуў бы музыкант гэтак крута сваё жыццё, калі б быў прызнаны як артыст на ўзроўні афіцыйным,— усё астатняе ў яго было... Страцілі мы за апошні год і яшчэ некаторых музыкантаў, якія вытрымалі конкурсы ў замежныя аркестры, ужо не гаворачы пра нашы саюзныя.

**Кажуць: «святое месца не пустуе». Але ж праца ў оперным аркестры вельмі спецыфічная і, акрамя прафесіяналізму, вымагае нямала часу, пакуль музыкант засвоіць увесь рэпертуар. Таму, каб мець высокі ўзровень аркестра, неабходна развітацца з амбіцыйнымі падыходамі ў вырашэнні кадравых пытанняў, неабходна імкнуцца да захавання кожнага музыканта аркестра, уважліва ставіцца да яго ных праблем — ці то жыллёвых, ці то фінансавых і да т. п. На жаль, мы маем досыць прыкладаў, калі гэтаму не надавалася належнага значэння. А вынік — частыя абвесткі конкурсу ў наш аркестр. Праблема гэтая на доўгія гады, бо нават і знайшоўшы добрую кандыдатуру, не адразу можна патрабаваць ад новага музыканта таго ўзроўню, які характэрны для спрактыкаванага. Тое самае і ў любой прафесіі.**

У РЭШЦЕ РЭШТ, прыйшоў я да балючай высновы: пакуль такая сітуацыя будзе захоўвацца, г. зн. калі не мастацтва і яго патрэбы будуць вызначаць задачы, якія неабходна нам усім разам вырашаць, а наадварот, калі мастацтва будуць вымушаць на пошук усялякіх «хітрыкаў» накшталт гаспадарчага разліку і іншых надуманых спосабаў існавання,— датуль нічога ладнага ў нас не атрымаецца. Пакуль наша мастацтва будзе вымушана шукаць выйсце з тых лабірынтаў, у якія яго завялі сучасныя метады кіравання,— датуль вялікія творчыя патэнцыялы не змогуць раскрыцца на поўную сілу. Вядома, я не маю такога аўтарытэту, як тыя людзі, што дасягнулі высокіх вынікаў у тэатральнай дзейнасці. І ўсё ж я маю дачыненне да тэатра, з'яўляюся непасрэдным удзельнікам ажыццяўлення мастацкіх задум, таму асмелюся сцвярджаць, што кіраўнікам, і адміністрацыйным і творчым, проста неабходна суадносіць сваю дзейнасць са справамі і патрэбамі непасрэдных выканаўцаў сваіх ідэй. Працаваць трэба ў большым кантакце з людзьмі, калегіяльна, з даверам да тых, хто паяднаны агульнай справай. І як бы добра ні быў зрэжысіраваны спектакль, у рэшце рэшт ён жыве толькі ў час выканання на сцэне, дзе ролі іграюць людзі, чыё жыццё перапоўнена рознымі праблемамі.

Хто з нас не любаваўся дасканаласцю коннай выездкі. Але ўявіце свае адчуванні, калі раптам тую жывёліну запрагуць у воз ды нагрузяць як след? Вартае жалю відовішча будзе, ці не праўда? Дык хіба не нагадвае і наш тэатр выпеставанага каня з цяжкім возам праблем? Мы адчуваем, якім па-творчы цікавым можа быць наша тэатральнае жыццё, але бачым, якое яно ёсць сёння, ды маўчым пра сваю незадаволенасць. Маўчым і пра тое, што міжволі з поля зроку выпадае важная дзейная асоба тэатра (а мо і галоўная) — наш слухач, аматар. Праўда, мы прызвычаіліся, напрыклад, спісваць праблемы існавання опернага жанру на зніжэнне глядацкай цікавасці да яго. Недапушчальна гэтак рабіць! Не надта даўнія канцэрты, некаторыя спектаклі ў нашым тэатры даказваюць іншае... Вось і думаю сабе: пакуль мы гаманілі пра «аб'ектыўныя» прычыны зніжэння цікавасці да оперы, ці не вырасла тым часам у гледача патрэба оперы выключна сапраўднай, а ісці ў тэатр толькі, каб палюбавацца пазалотай або завітаць у буфет,— на гэта марнаваць свой час людзі больш не хочуць. Наогул, для сучаснага стылю жыцця характэрнае імкненне чалавека да натуральнага, сапраўднага, у тым ліку і ў мастацтве. Нам трэба мець гэта на ўвазе і старацца не адставаць.

У бліжэйшым будучым неабходна знайсці пункт перакрыжавання нашых творчых пазіцый з інтарэсамі і запатрабаваннямі публікі, беларускіх слухачоў. Пры ўсіх нашых бедах нельга сцвярджаць, што ДАВТ згубіў зусім сваіх прыхільнікаў. Але як бы мы ні рыхтавалі прэм'еру, як бы ні рэкламавалі яе, калі слухач не разумее, не можа разабрацца і расчароўваецца,— мы яго, лічы, страцілі. Між іншым, да нас часта прыязджаюць замежныя менеджэры, каб выбраць для паказу ў сваёй краіне некалькі балетаў. Як правіла, з некалькіх спектакляў выбіраюць яны 2—3, менавіта тых, якія «пойдуць», бо беспамылкова ведаюць попыт сваёй публікі. Дык ці лішне будзе і ў нас заняцца належнымі сацыялагічнымі даследаваннямі, каб у адпаведнасці з вынікамі аналізу шукаць агульныя напрамкі развіцця тэатральнага мастацтва ў агульным кантэксце беларускай культуры? Для артыстаў жа галоўная радасць працы — водгук у сэрцах нашых слухачоў.

ГЭТЫЯ НАТАТКІ з'яўляюцца на свет у складаны час перамен. Не хацелася б, каб усе, хто сёння прыкладае вялікія намаганні, каб зрушыць з месца воз нашых праблем, успрымаў усё, пра што я тут выказваюся, як «падножку». Наадварот. З прыходам да мастацкага кіраўніцтва А. Анісімава ў аркестры адбываюцца прыкметныя змены, мы адчуваем з яго боку вялікую зацікаўленасць у новых поспехах, уважлівае стаўленне да нашых праблем, і вельмі гэта цэнім. Але ж тэатр — гэта не толькі аркестр, наш ДАВТ па-сапраўднаму вялікі і кіраваць ім не проста, таму і ўсе мы павінны далучыцца да жыцця калектыву, пакрысе разграбаць старыя праблемы і пільнаваць, каб не збіраліся новыя. Мы ўжо атрымалі некалькі даволі адчувальных прэмій па выніках працы за трэці квартал мінулага года, але ж хацелася б, каб мы паціху адвыкалі ад таго, што прэміі нам даюць, як робяць ласку,— думаю, людзі іх ужо даўно зарабілі сваёй адданай працай. У той жа час аркестрам вылучаны цэлы пакет патрабаванняў адміністрацыі тэатра, звязаных з сацыяльна-бытавымі ўмовамі працы артыстаў аркестра, пытаннямі штатаў і да т. п. Бо ёсць двухадзіная задача, якую, на мой погляд, увесь час мы намагаемся вырашаць, адарваўшы адно ад другога. З аднаго боку — праблемы якасці самога мастацтва, а з другога — не меншыя праблемы якасці жыцця тых, каму наканавана мастацтвам займацца.

Я ўпэўнены, што правільнае разуменне тэатральных праблем, паслядоўнае іх вырашэнне, прызнанне на справе статуса як адзінага ў рэспубліцы Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета надасць новых сіл усім яго работнікам.

А наогул... Можа, хопіць ужо ставіць вырашэнне праблем музычнай культуры, дый культуры наогул, у канец чаргі? Ці не прыйшоў час заняцца распрацоўкай стратэгічнай дзяржаўнай, рэспубліканскай праграмы выхаду з культурнага крызісу?

**Пятро ДУДАРЭНКА,**
**артыст аркестра**
**ДАВТа БССР.**

# СВЯТКУЕМ?..

**Рускі тэатр імя М. Горкага. Ф. Дзюрэнмат. «Метэор» у суправаджэнні «Аркестра» Ж. Ануя. Пастаноўка А. Карпава. Сцэнаграфія Ю. Тура. Касцюмы Н. Сардаравай. Музычнае афармленне А. Архіпава.**

Усе ўрачыстасці мусілі адбыцца — і адбыліся! — 27 лютага: доўгачаканае наваселле Малой сцэны ў Рускім тэатры БССР, дэбют кінарэжысёра А. Карпава тамсама, прэм'ера новага спектакля, бенефіс артыста Расціслава Янкоўскага. А паколькі ў гэтым тэатры не развучыліся святкаваць, дык усё было наладжана, як у лепшыя гады — з кветкамі першаму гледачу і выканаўцам, з шампанскім і пірожнымі... Невялічкі флігель у двары Рускага тэатра — старадаўні «дамок рабіна», доўгія гады занядбаны, сёння востра патыхаў лакам, ззяў святлом, глядзеў на свет свежапамытымі вокнамі, гасцінна расчыняў дзверы невялічкай — на паўсотні гледачоў — залы.

...Дзелавітасць рэжысёра, запаволены спакой галоўнага, яўная стомленасць бенефіцыянта, спазненне пачатку на паўгадзіны: руплівая, засяроджаная падрыхтоўка да свята...

І яно адбылося. Не верыце, але, дальбог, адбылося! Сапраўднае тэатральнае свята, па якім мы так засумавалі...

Калі ізноў у душы прачынаецца радасць і любоў — радасць ад тэатра, любоў да тэатра, дзе ўсё ж такі пачатак усіх пачаткаў — гульня! Уцягнуты ў вір тэатральнай гульні, ты неўпрыкмет атрымаеш-такі сваё — цалкам сур'ёзныя высновы, але спачатку будзе гульня, тэатр. І спачатку, і ў фінале, і ўвесь час.

(Як мы адвучыліся ад тэатральнай гульні, давялося са скрухаю ўбачыць на нядаўнім спектаклі тэатра «Эрмітаж» — «Хармс, Чармс, Шардам, або Школа клоунаў»... Першую дзею мы ўпіраліся: нам прапанавалі правілы гульні, нас уцягнулі ў яе, забаўлялі, тармасілі — аднак жа мы панура маўчалі. Не паддаваліся. Толькі пад час другой дзеі неяк «раскатурхалі» нас, але ж не ўсіх. Самыя пахмурныя пакінулі залу: «А ну іх, што за дзіцячы сад!..»).

А ў Рускім тэатры на Малой сцэне нам падрыхтавалі ў падарунак — тэатр.

Ідэя рэжысёра — звесці ў «тэатральную адзінку» дзве п'есы знакамітых драматургаў — Жана Ануя і Фрыдрыха Дзюрэнмата — спачатку падалася амаль авантурыстычнай... Укаранелая, трывалая строгасць густу, гэткае пурытанства, пагарджанне ўсялякай там эклектыкай і стракатасцю стылю неяк прымушалі адхіляць самую задуму перамешваць «высокае» і «нізкае»... Але нядоўга. Бо невядома было, што лічыць «высокім» — «Метэор» Дзюрэнмата, дзе славуты пісьменнік Швітэр увесь сцэнічны час намагаецца памерці з энергіяй, якая зводзіць у магілу аднаго за адным усіх вакол яго, а сам ён між тым зацягвае ў ложак маладзенькую жанчыну.., ці «Аркестр» — жаночы аркестр у танным рэстаранчыку, з усімі плёткамі, амбіцыямі, дробнымі грашкамі, смеццем, уласцівымі нуднай штодзённасці, з смешным, напалову прыдуманым каханнем і з непадробнай смерцю?..

Што ж датычыць дзвюх п'ес пад адным «дахам»... Дасведчаны рэжысёр узяў п'есу Ануя, якая паводле тэатральнай тэрміналогіі пазначана як «п'еса перад заслонай». Ён «перапластаваў» п'есы адну другою, не звязваючы іх сюжэтна: то падкрэсліваючы, то адцяняючы, а то — супрацьпастаўляючы. Малая сцэна сама па сабе — тэатр у тэатры — прымае ўдзел у гэтым шматслойным, быццам славутае «дзераўлянае яечка», відовішчы: здаецца, ужо ўсе сакрэты адкрыліся, але ж ізноў: «адчыні яго — а ў ім дзераўлянае яечка...» Уласна Рускі тэатр — маленькі, бы куфэрак з пасагам, тэатр Малой сцэны,— у ім «Метэор», якім з іроніяй і заўзятасцю разыгрывае трагіфарс уласнага скanання Нобелеўскі лаўрэат Шлютэр... у выкананні Расціслава Янкоўскага, у суправаджэнні «Аркестра», для якога і Шлютэр, і Янкоўскі, і ўся Малая сцэна — свет «па-за шклом», па-за заслонай, у якім штучныя страсці і ўяўныя хваляванні, непараўнальныя з тымі, што ўзрушваюць аркестрантак...

Але ж і яны — статысткі тэатра, дзе ў сваёй дробязнасці, нікчэмнасці нават не маюць імёнаў. Першая скрыпка — істэрычная, хваравіта самалюбная дзяўчына, Ударныя — засяроджаная на любоўных нягодах, спелая красуня са звярынай цікаўнасцю зларадна сочыць за бурамі на сцэне (у «Метэоры»), падагравае скандал у «Аркестры»... Духавыя — яна ж дырэктрыса аркестра — рухае падзеі ў «Аркестры» і ўмешваецца ў дзеянне «Метэора»... Піяніст — адзіны мужчына і яблык раздору, і Кантрабас — яго каханка,— ужо непасрэдныя ўдзельнікі пагібельнай драмы, якая «ўвянчаецца» самагубствам... у прыбіральні. У гэтым мізэрным тэатрыку, дзе страсці кіпяць паміж фартэпіянным сола і ўсхліпам кантрабаса, а нейкі двухсэнсоўны жалобны марш раз-пораз пераходзіць у гуллівы матыўчык, які ліха наярваюць узрушаныя аркестранткі, у гэтым тэатрыку няма калі аплакаць ахвяру, бо — «жыццё ідзе!».

Жыццё ідзе... З будзённасцю тэатра і з тэатральнасцю побыту. «Пагранічная» сітуацыя: жыццё — смерць і пагранічная сітуацыя кранальнага і смешнага, велічнага і мізэрнага. Жыццё...

Балаган, фарс, абсурд, скандал — і кплівы, іранічны халодны позірк вачэй Швітэра — Янкоўскага. Цынічны спажывец жыццёвых выгод, учэпісты выхадзец з «нізоў», які паспытаў усіх смачных страў, напояў, жанчын, поспеху, славы, лаўровых вянкоў... Ён быў яркі і абыякавы, як метэор. І на заходзе сонца ўсвядоміў, што ўсё пражытае, зведзенае, адчутае — усе гэтыя слодычы — пакінула пасля сябе пустэчу, смак попелу... І пажадае смерці. Але і ў апошні момант ён не кіне сваіх звычак — пачне шалёна дамагацца ціхага кутка, дзе можна спакойна канаць...

Такім Янкоўскага мы яшчэ не бачылі: артыстызм, адвага, уладарнасць, пранізлівая туга па незваротным, непатольная прага жыцця, іронія над персанажам і самаіронія, гэткі акцёрскі адыход ад героя, пагляд збоку, гэткі «момант ісціны», імгненне цішыні. Калейдаскоп, феерверк — і раптам нейкая бязлітасная спавядальнасць... Герой Янкоўскага быццам не падлягае скрупулёзнаму аналізу, у ім неадрыўна зрошчаны самыя процілеглыя чалавечыя якасці, чакаць, што характар Швітэра будзе пададзены пахрэстаматыйнаму «ў развіцці» — неабачліва. Кожную хвіліну нечаканы, супярэчлівы, ён не падрыхтуе нас да апошняга свайго тужлівага крыку: нешта ж саспела, скранула каменнае сэрца...

Янкоўскі зусім натуральна саліруе ў спектаклі, дорачы нам і атрымліваючы сам асалоду ад валодання сваім героем, залай, ад узаемаразумення з партнёрамі, з «Аркестрам», у якім што ні інструмент — каштоўнасць, дзе ззяюць Б. Масумян, Л. Былінская, А. Аксёнава, Н. Чамадурава...

Дык усё ўдалося рэжысёру, тэатру?.. Не, не ўсё. Ды і не павінна было. Натуральнае з'яднанне «Аркестра» з «Метэорам» яшчэ наперадзе. У спектакля ёсць вялікія перспектывы ўдасканалення: набыцця вольнага дыхання, нязмушанасці, прафесійнай свабоды, якая ўласціва не ўсім выканаўцам (некаторыя, баюся, яе і не набудуць)...

Мы даволі часта прадракаем: маўляў, спектакль дарасце на публіцы, даспее, накатаецца і да т. п. Але ж часцей бывае, што замест таго ён расхістваецца, ідзе не па той каляіне (прычын таму процьма...). Але сёння ёсць усе падставы разлічваць на лепшае: у самім спектаклі бачацца (як у той табліцы Мендзялеева) ужо вылічаныя ячэі, якія павінны напоўніцца тэатральным мёдам. А што ён не збочыць — веру, бо «Аркестрам» кіруе вынаходлівасць і адвага Н. Чамадуравай, а трасу «Метэора» захоўвае моцная воля і цвярозае вока Янкоўскага. І агульная захопленасць новай справай.

Дык што ж, можа, і сапраўды — святкуем?!

**Лілія БРАНДАБОЎСКАЯ.**

# Дзецям Чарнобыля

**Міласэрнасць і дабрачыннасць цвёрда ўваходзяць у наша жыццё. Наогул, кожны чалавек пры жаданні, чым бы ён ні займаўся, можа і павінен праяўляць і міласэрнасць, і дабрачыннасць. Менавіта гэткім праяўленнем высакародных грамадзянскіх пачуццяў стаўся дабрачынны канцэрт выкладчыкаў кафедры спеваў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі ў фонд дзяцей Чарнобыля. Канцэрт адбыўся ў зале камернай музыкі філармоніі.**

**Ідэя яго правядзення ўзнікла невыпадкова: на кафедры спеваў сёння склаўся высокапрафесійны калектыў. Амаль усе вядомыя вакалісты рэспублікі ўваходзяць у яго. Гэта гарантавала якасць канцэрта і цікавасць слухачоў да яго. Не ўсе выкладчыкі змаглі выступіць у той вечар: хто захварэў, хто з'ехаў на гастролі. Але ў двухгадзіннай праграме выступілі тыя, хто знаходзіцца зараз у росквіце творчых сіл, і тыя, хто ўжо некалькі гадоў не выходзіў на сцэну і толькі дзеля такой высакароднай мэты не пашкадаваў нават свайго здароўя.**

**Выступілі народныя артысты БССР Лідзія Галушкіна і Леанід Бражнік. Іх сустрэча са слухачамі адбылася пасля шматгадовага перапынку. Асабліва гэта датычыць Л. Бражніка, які здзейсніў амаль геройскі ўчынак, выступіўшы ў канцэрце пасля перанесеных цяжэйшых хвароб. Народны артыст РСФСР Эдуард Пелагейчанка, народная артыстка БССР лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Ірына Шыкунова, заслужаны артыст БССР лаўрэат усесаюзных конкурсаў Віктар Скорабагатаў, заслужаная артыстка БССР, лаўрэат міжрэспубліканскага конкурсу Любоў Каспорская — вядомыя артысты, якія знаходзяцца ў зеніце свайго творчага жыцця, шмат занятыя на сваёй асноўнай выканаўчай рабоце. Але і яны знайшлі магчымасць выступіць у дабрачынным вечары. Загадчык кафедры спеваў Леанід Івашкоў, які адкрываў праграму, многае зрабіў, каб рэалізаваць ідэю канцэрта. Наогул, наладзіць яго было не цяжка: адгукнуліся і выкладчыкі кафедры, і канцэртмайстры, і кіраўнікі Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

**Прагучалі творы А. Луццы, П. Чайкоўскага, А. Булахава, С. Рахманінава, Ф. Чылеа, І. Лучанка, У. Дарохіна і іншых кампазітараў, народныя песні.**

**Канцэртмайстрамі ў канцэрце выступілі Ганна Каржанеўская, Таццяна Іванова, Надзея Ляпіч, Мікалай Сярдобаў, Вадзім Сідараў.**

**Цёпла аддзячылі слухачы ўдзельнікам канцэрта за іх мастацтва і шчырасць душы.**

**НАШ КАР.**

Крыстаф Хойбнэр — нямецкі пісьменнік сярэдняга пакалення — некалькі гадоў таму паспяхова зарэкамендаваў сябе як паэт (пераклады ягоных вершаў ужо друкаваліся ў «ЛіМе»). Цяпер Хойбнэр напісаў кніжку кароткіх апавяданняў, у якіх дамінуе экзістэнцыяналісцкая тэма чалавечага існавання ў высокаразвітую тэхналагічную эпоху, не пазбаўленую, аднак, сваіх бед і цяжкасцей, адной з якіх з'яўляецца адчужэнне, адзінота асобы ў мнагалюддзі вялікага багатага заходнееўрапейскага горада. Крыстаф Хойбнэр вядомы таксама як грамадскі дзеяч, адзін з кіраўнікоў пацыфісцкай «Акцыі збавення», што нямала робіць для збліжэння нямецкага і савецкага народаў, пераадолення драматычных праблем, выкліканых апошняй вайной.

Ніжэй друкуюцца два апавяданні з памянёнай кніжкі Крыстафа Хойбнэра.

Васіль БЫКАЎ.

# Два апавяданні

Крыстаф Хойбнэр

## Запрашэнне ў рэстаран

— Ага,— сказаў ён і паспрабаваў радасна ўсміхнуцца,—ага, ага...

І гэта ўсё за тое толькі, што ён тры тыдні таму назад дапамог Бюнеманам у падрамантаваным летніку перасланць цёмна-зялёным дываном падлогу. Зрэшты ж, ён ужо атрымаў трыццаць марак. Фраў Бюнеман пасля зробленай працы адлічыла яму на кухонны стол, і Крэмзэр пасля яшчэ з прыемнасцю прапусціў чарчыну. Ён проста не трываў ветліва-ўдзячных людзей, і фраў Бюнеман была яму непрыемная. Яе прыветлівасць здавалася яму спачувальнай, проста пачуццёвай. Ён лёгка мог уявіць, як фраў Бюнеман казала свайму мужу: Я сустрэла гера Крэмзэра ў Эдэнаў і запрасіла яго на вячэру. Ён быў такі рады, такі рады. Небарака, адзін на старасці, ды яшчэ ў гэтым сваім пансіёне. Не, Крэмзэр з агідай думаў пра запрашэнне на вячэру. Мусіць, давядзецца апранацца ў гарнітур. Фраў Бюнеман яна ж такая...

Калі ў чацвер да яго явіўся гер Бюнеман, — Крэмзэр якраз вярнуўся ад Эдэнаў, дзе ён як звычайна сек на дровы скрынкі з-пад гароднiны і раздзіраў на кавалкі кардон — ён аддаўся сваёй долі.

Сёння вечарам стол, сказаў гер Бюнеман, нешта дужа адмысловае: італьянскі рэстаран, піццэрыя, мы заедзем па вас на машыне каля восьмай гадзіны.

Дзякую, гер Бюнеман, каля восьмай буду чакаць ля пансіяната, увечары тут цемнавата, ведаеце.

Без дваццаці восем Крэмзэр стаяў каля ўваходу ў пансіянат. На ім быў яго стары цёмна-сіні гарнітур і шэры гальштук-шліпс.

Апошні раз быў у гарнітуры на пахаванні Гервінскай, падумаў Крэмзэр. Яна памерла на пачатку ліпеня, і Крэмзэру яшчэ добра памяталася спёка на дварэ. Ён так спацеў на пахаванні.

А цяпер быў канец верасня. Летнік Гервінскай у пансіянаце ўсё яшчэ быў незаселены. Сваякоў гэта мала абыходзіла, але і прадаваць чамусьці не хацелі.

Учора Крэмзэр там крыху паўпраўляўся. Ён не любіў, калі вакол яго летніка выглядала непрыбрана. Варта было фраў Гервінскай памерці, як вось ужо яе жытло запусцілася. А трэба ж, зрэшты, памятаць, што тут яшчэ жывуць людзі, думаў Крэмзэр. І без таго многія паўміралі ў нашай калоніі.

Канец верасня, ціха сказаў Крэмзэр. Зіма на падыходзе. Ён адчуваў яе ўсімі сваімі касцямі. Яго знабіла, і ён засунуў рукі ў кішэні.

Дзіўна, гарнітур рабіўся яму ўсё больш вялікі. Ён агледзеў сябе. Можа, я паменшаў, падумаў. Уціснуў галаву ў плечы. Паскуднае запрашэнне.

Бюнеманы былі пунктуальныя.

Сядайце, усклікнуў гер Бюнеман, і Крэмзэр усцерабіўся на задняе месца. І прасачыў, каб не ссунуць дыванюк пад нагамі.

Вы ўжо калі бо мелі італьянскі стол, спытаўся гер Бюнеман.

Не, сказаў Крэмзэр, не, яшчэ ніколі.

Ён увогуле не мог успомніць, калі апошнім разам хадзіў у рэстаран. Ён заўсёды еў дома. Дома ён мог рабіць, што хацеў. Каму што да таго, як ён рэзаў хлеб і ці вымаў устаўную скіўіцу, калі еў кілбасу.

Фраў Бюнеман зусім не сказала нічога. Можа, яна праз увесь вечар увогуле словам не акажацца, думаў Крэмзэр. Толькі калі гер Бюнеман папытаўся, ці зручна сядзіцца табе, Анэлізэ, тая сказала, — канечне.

Маёй жонцы баліць галава, сказаў гер Бюнеман.

Крэмзэр не ведаў, што адказаць на гэта і ці ўвогуле ад яго чакалі адказу. Ён утуліўся на сваім месцы і зрабіў выгляд, што глядзіць у акенца. У многіх вокнах ужо гарэла святло, у многіх кватэрах глядзелі тэлевізары.

Крэмзэр быў рады, калі нарэшце прыехалі. Рэстаран называўся «Піночыё». Назва яму ні пра што не гаварыла.

Кельнер пасадзіў іх за стол. Гер Бюнеман паказаў Крэмзэру ягонае месца. Калі ласка, гэта ваша месца, сказаў ён.

Рэстаран быў запоўнены напалавіну.

Пазней, у дзесяць—адзінаццаць, папаўнее, сказаў гер Бюнеман, калі скончаць тэатры.

Тэатры, падумаў Крэмзэр. У яго перасохла ў роце. Піва выпіў бы зараз. Вялікі куфаль і каб меней шуму.

Кельнер прынёс меню. Спярша падаў фраў Бюнеман.

Крэмзэр асцярожна пагартаў сваё. Назвы страў гучалі каласальна.

Можа, мы вам што прапануем, сказаў гер Бюнеман, можа, піцца альбо з мяснога што, можаце выбраць і локшыну, спагецці, напрыклад.

Крэмзэр кіўнуў. Яму было ўсё роўна.

Фраў Бюнеман чытала меню быццам кнігу. Яна глядзела ўніз.

Гер Бюнеман пагладзіў яе па плячы і сказаў: Гэта пойдзе, дарагая?

Яна не адказала.

Калі яна гартала сваё меню, ён сказаў: Якое возьмем віно? Чырвонае, белае?

Крэмзэр кіўнуў. Ад віна яго брала пячайка.

Чаго панства жадае, спытаўся кельнер.

Бюнеман заказаў: тры піццы па-хатняму і літр фраскаці.

За сталом не было чаго рабіць. Меню кельнер забраў. Хвіліну-другую яны маўчалі, пакуль гер Бюнеман не сказаў: Спадзяюся, вячэра не задоўжыцца.

Фраў Бюнеман пашукала ў сумачцы цыгарэт.

Крэмзэр не ведаў, чым ён можа паспрыяць гутарцы, а ісці ў туалет, здалося яму, яшчэ зарана. Ён зрабіў выгляд, што разглядвае памяшканне.

Тут міла, праўда ж, сказаў Бюнеман.

Крэмзэр кіўнуў.

Прайшло дзесяць мінут, і яны скупа перагаворваліся за сталом. Часцей за ўсё гер Бюнеман закідаў пра іншых гасцей рэстарана, пераважна пра іх дрэнныя манеры.

Ну, цяпер, прынамсі, пададуць віно, сказала фраў Бюнеман.

Яна буркліва паглядзела да стойкі, тады на Крэмзэра, які паспешліва кіўнуў.

Ён не мог убараніцца ад пачуцця, што фраў Бюнеман лічыць яго сапраўднай прычынай дрэннага настрою.

Гер Бюнеман сказаў: А звычайна ж тут абслуга вельмі ўвішная.

Ён зноў пагладзіў жонцы плячо, але нішто не змянілася.

Крэмзэр паспешна ўстаў і прамармытаў, — туалет. Ён радаваўся кароткай перадышцы і рашыў чыста-чыста вымыць рукі. Можа, якраз тым часам прынясуць віно.

Вярнуўшыся да стала, ён заўважыў, што Бюнеманы, пакуль яго не было, відаць, перагаварылі пра яго. Віна яшчэ не прыносілі. Фраў Бюнеман перабірала пальцамі па стале.

Крэмзэр усё яшчэ адчуваў сябе ніякавата. Ён не мог даць сабе рады, а цяпер якраз трэба было нешта сказаць, проста мусіў быў сказаць, калі ўжо яны запрасілі яго ў рэстаран.

Прынамсі, хоць сальнічка ў парадку, сказаў ён.

Бюнеманы неўразумела паглядзелі на яго.

Я пра сальніцу і перачніцу. У некаторых рэстаранах чысты страх з сальніцамі. Альбо пустыя, альбо ў іх дробкі буйныя, альбо дзірачкі не сеюць. А часам змесціва такое застаялае, што як камень. І зусім не сеюцца, трасі—не трасі. Я часта пытаўся ў сябе, няўжо іншыя людзі не перчаць, не соляць, бо як жа даюць так збіцца ў грудкі. Нібыта ў нас ядуць адны хворыя. Але найгорш, калі хочаш прыперчыць, а ў рэстаране асвятленне цьмянае. Тады нічога не бачыш, сыплецца там што ці не. Аднаго разу, шмат гадоў назад, у адным рэстаране — святло там было непагляднае—я хацеў паперчыць капусту. І мне здалося, што перац не сеецца. Што сапсаваў сабе ўсю ежу, заўважыў толькі тады, калі чыхнуў. Але тут святло добрае, так, светла тут.

Так, сказаў гер Бюнеман, свеціць добра.

Кельнер прынёс віно.

Мяне прадзімае, сказала фраў Бюнеман.

Яе муж накінуў ёй на плечы пінжак. Так лепш?

Але ж сказала яна, цягне ад туалета. Мусіць, там нехта дзвярэй не зачыніў. Яна зірнула на Крэмзэра.

На здароўечка, сказаў гер Бюнеман, у такі міленькі вечар усім разам.

Яны паднялі кілішкі.

Крэмзэр пачуваўся несамавіта. Ён ужо не быў пэўны, што сапраўды зачыніў дзверы ў туалеце.

Спадзяюся, вы не прастудзіцеся, сказаў ён да фраў Бюнеман. Памятаю яшчэ, як я з маёю жонкаю ездзіў на курорт у 1957 годзе ў Дрыбург, тады мы кожны дзень абедалі ў рэстаране. «Беласнежка і сем гномаў»—называўся. На дзвярах вісела вялікая шыльда: Добрая паспалітая кухня. Жонка тады ўвесь час казала: Добрая паспалітая кухня, смеху варта, адкуль тут так дзьме. Сапраўды цягнула. Яна тады захварэла на грып, так што мы мусілі перапыніць лячэнне. Мяне гэта толькі ўсцешыла. Мне неяк не выпадае цэлы дзень нічога не рабіць, а ўвесь захварэў ад гультайства.

Фраў Бюнеман недаверліва зірнула на яго.

Ён быў рады, што якраз у гэты момант кельнер вынес ежу.

Ага, значыцца такая яна, іхняя піцца. Як блін з памідорамі. А пасярэдзіне піццы печанае яйцо.

Фраў Бюнеман разгледзела прыбор бліжэй. Тады працерла сурвэткай. Мусіць, мылі ў машыне, сказала.

Гер Бюнеман асцярожна глянуў на жонку. Ён яўна баяўся, што яна клікне кельнера і запатрабуе другія прыборы.

Крэмзэр заўважыў, што яго кашуля пад пахамі ўжо ўзмакрэла. Як на пахаванні Гервінскай, падумаў ён.

Я люблю яечню, сказаў ён геру Бюнеману і паказаў на піццу. У маіх бацькоў. У маіх бацькоў у Коніцы была птушкаферма, гэта ў заходняй Прусіі, дзе цяпер палякі. Шэсцьдзесят курэй, і ўсе добра нясліся. Нашага пеўня ўсе суседзі баяліся, баявіты быў певень. Адзін раз ён ледзь не адшчыкнуў вуха суседаваму сыну. Ледзь да суда не дайшло. Але бацька мусіў-такі заплаціць нарэшце адступнога. Я змалку люблю яечню. І курынае мяса, вядома. Ведаеце, як гэта цяпер там тыя называюць курэй—бройлеры. Чаго толькі чалавек не панавыдумляе.

Ах, там тыя, людзі, сказала фраў Бюнеман, тыцнуўшы відэльцам у паветра.

Ну, ешце, гер Крэмзэр, сказаў гер Бюнеман. А то выстыне.

Крэмзэр еў...

Калі Бюнеманы высадзілі яго каля летніка, Крэмзэр шчыра падзякаваў. Машына хутка ад'ехала.

Крэмзэр пайшоў па садовай сцежцы да свайго летніка. Трэба мне чарку гарэлкі, падумаў Крэмзэр, бадай, адну чарачку, як сказала б фраў Бюнеман. Усміхнуўся.

На кухні ў сябе ён наліў вялікую чарку. Праз акно відзён быў дамок Гервінскай.

Ён выйшаў за дзверы. Неба было чыстае, ні хмурынкі. На небе вісеў месяц. Як піцца, ціха сказаў Крэмзэр.

Ён падышоў да куста парэчак, расшпіліўся і пусціў высокі струмень. Засмяяўся.

І пайшоў спаць.

## Той канец свету

Крэмзэр думаў: Добры закутачак, лаўка за кустамі, яшчэ вільготная трава. Крэмзэр чуў, як займаўся новы дзень на аўтастрадзе, што вяла да цэнтра—далёкі гул, гудок-другі—і растае ў паветры, горад прачынаўся, стукаталі дзверы, тупат на лесвіцах, людзі спешна запаўнялі тунелі метро... Заходзьце... выходзьце... паспяшайцеся!.. Пачакайце наступнага цягніка!

Дзень пачаўся, і Крэмзэр задумаўся.

Я—што гадзіннік, думаў Крэмзэр, гадзіннік, які адстае: занадта мала думаў у жыцці. Надта мала пытаўся — чаму і адкуль і куды.

Цяпер ён спрабаваў нагнаць. Прабягаючы ў думках: назад у дзяцінства, бацькі, ледзь рухомыя малюнкі, уявы, фразы, якія выплывалі з даўніх-давён. Дзень добры, Артур, казалі «фразы», а ты заўсёды слухаўся, быў рахманы? Гэта бабуля. Маленькая і старая, яе неяк ўвесь час кудысьці неслі; палявы гасцінчык у Прозэкене і пахаванне, адно, другое... Ці так яно ўсё было, што ўзгадвалася?

Так, бабця, думаў Крэмзэр, заўсёды слухаўся, занадта рахманы.

Крэмзэр сядзеў зусім ціха і ў яго было прыемнае адчуванне, што ён зноў на пачатку. Зноў і зноў ён думаў пра такую раніцу, калі ён са сваім школьным таварышам употай выправіліся да мора. Добрых кіламетраў пяць яны беглі, увесь час плячыма адчуваючы матчыну забарону.

Мора тады было зусім спакойнае, хвалі паблісквалі сонечнымі блікамі, і ім здавалася, што яны вось так адразу маглі б пайсці нагамі па вадзе, напрасткі аж на той канец свету...

Так яно было, думаў Крэмзэр, так было тады. І тая раніца ніколі не выпадала з памяці.

Сябар, яго звалі Рыхард, пазней вывучыўся на шаўца. У 1940 годзе ён загінуў у Францыі, у 33 гады, на тым канцы зямлі.

Крэмзэр падняў галаву, азірнуўся навокал: ягоныя кусты, ягоны сад, ужо і газоны стрыгчы пара, праца на пасляпалудне.

А да полудня трэба ісці штосьці купіць, не тое, каб нешта дужа пільнае, ну, хоць бы газету, крыху масла, спецнабор. Раней гэта рабіла жонка.

Яго жонка, яна вельмі любіла купляць. Не тое, каб купляць дзеля куплі, а больш каб выходзіць з пансіяната. Ён заўсёды ведаў, што яна нічога так не прагнула, як толькі каб пажыць у нармальным доме, скажам, на Фрыдбергштрасэ. І ён ведаў таксама, што яго жонка ніколі не разумела, чаму Крэмзэру так бо карцела застацца жыць у летніку.

Калі яны куплялі што-небудзь новае, з мэблі, ці якую электрапрыладу; нічога нельга было несці, усё перавозілі на машыне, яна саромелася адраса: яна сапраўды не разумела, чаму Крэмзэр заставаўся і застацца хацеў. «Ты адсталы», казала яна заўсёды.

Пазней, калі нарадзіўся хлопчык, яна дакарала—ты, казала, вінаваты, што хлопчык не выб'ецца далей свайго адраса.

Яна яшчэ настойвала, каб хлопчыка ахрысцілі Хайнцам-Гербертам, Крэмзэр лічыў, што і Герберта больш чым за досыць. Але такая ўжо была ў яго жонка: двайное шво, казала, больш носкае. Дзе толькі магла, там старалася адкусіць ад жыцця большы кавалак, веяна ў пагоні, веяна ў бегатні па вуліцах і крамах.

Часам Крэмзэр ішоў разам з ёю. Угору-ўніз па эскалатарах. Але дзе ён спыняўся, там ёй рупела далей, дзе спынялася яна, там яго нуда брала. Аднаго разу ён затрымаўся каля кніжнага кіёска, там ляжала кніга пра вікінгаў, якую хацелася пагартаць. А побач стаяла кніга «У штрафной калоніі». Жонка толькі зіркнула на яго, і прыйшлося тут жа ісці далей—зноў не тая тэма.

Праз некалькі дзён яна прынесла кнігу з абанементнай бібліятэкі, але гэта каштавала ёй смутку. Яна любіла дэтэктывы. Чытала па два на тыдзень. У бібліятэку хадзіла кожны панядзелак і чацвер. І кожную прачытаную кнігу яна пазначала ўнізе семнаццатай старонкі малой літарай «к» — Крэмзэр.

Часам, калі моцна далягала самота, Крэмзэр ішоў у бібліятэку і браў дэтэктывы. Але не чытаў іх ніколі, адгортваў на семнаццатай старонцы і ўсміхаўся, знайшоўшы малое «к».

Яго жонка: яна любіла птушак і мядзведзяў, смехдый годзе, і кожнага разу, калі ён купляў мухалоўку, яна потайкам выкідала яе на сметнік.

Часта хадзілі ў заапарк. Нават калі хлопчык ужо даўно пайшоў з хаты: двое старых людзей у заапарку, уваход пенсіянерам і беспрацоўным за памяркоўную плату. І яго жонка кожнага разу брала парасон, нават калі на ўсім небе не было ні аблачынкі, ні хмурынкі, а прагноз даваў на цэлы дзень «без ападкаў». З таго часу, як на небе пачалася неразбярыха, на пагоду надзей класці нельга, казала,—адным словам брала парасон.

А як жонка памерла, дык ужо ані разу ў заапарку не быў. Нават на могілкі хадзіў рэдка. Догляд за магілай ён даручыў садоўніку. А часам хлопчык пасылаў грошы на кветкі.

Зрэшты, колькі ж бо гэта яму на часе: радзіўся ў 1944-м, ага, значыцца, трыццаць дзевяць. Столькі было Крэмзэру, калі сын нарадзіўся. А цяпер у яго ўжо двое дзяцей. Хлопчык і дзяўчынка. Дзяўчынку звалі Свант'е. Каб жа была жывая жонка.

Магчыма, ёй спадабалася б. Сёння хлопчык моцна стаяў на нагах. Пасля сярэдняй школы вучыўся па банкаўскай справе. А тады пазнаёміўся і з гэтай дзяўчынай, яна была на кегельбане ў Берліне, з Ольдэнбурга сама. Пабраліся яны ў Ольдэнбургу, ды так там і жыць засталіся.

Часам Крэмзэр наязджаў да іх. Аднаго разу яны ўзялі Крэмзэра на каляднае свята ў клуб. Усе жанчыны былі ў даўжэзных сукенках, і сядзелі яны за сталом удванаццацёх. Адзін з іх, гандлёвы агент з тэкстыльнай прамысловасці, спытаўся ў яго: Дзе вы жывяце ў Берліне, гер Крэмзэр, я там часта бываю па службе? І хлопчык неяк адразу перавёў гаворку на нешта іншае.

Крэмзэр усміхнуўся. Трыццаць дзевяць гадоў, ужо і па лесвіцы крыху ўгору падняўся, натуральна, грошы на відэа пазычыў яму ахвотна. Відэа, думаў Крэмзэр, чаго толькі не панавыдумляюць у наш час.

Ён устаў: яго сад, бялізна на шнурах, учора толькі памыў.

Мабыць, даўно ўжо перасохла.

Вецер шкуматаў кашулі і шкарпэткі. Сырая і сухая бялізна, час прамінуў...

Пераклаў з нямецкай
Васіль СЕМУХА.

# КАБ—НА СТАГОДДЗІ!

## Агляд чытацкай пошты

«ПОЙДУ по Абрикосовой, сверну на Виноградную и на Тенистой улице я постою в тени...» — як часта даводзілася чуць гэтыя словы з немудрагелістай песенькі нашага земляка, спевака Юрыя Антонава. Просценькая, наіўная песенька! Але ж бывае такое: западзе мелодыя ў галаву з самага ранку і пасля круціцца там цалюткі дзень, і як ты яе ад сябе ні адганяеш, яна ўсё адно не дае спакою, рады ніякай, — і ты паўтараеш, мармычаш яе зноў і зноў...

Мусіць, гэткае ж насланнё напаткала і членаў тапанімічнай камісіі пры Мінскім гарвыканкоме, калі яны прымалі рашэнне аб перайменаванні некаторых вуліц Мінска ў сувязі з уключэннем у межы горада былых вёсак Дворышча і Азярышча. Абрыкосаў у Мінску, пэўна, няма, а вось вішань—нямала, асабліва там, дзе вуліца Заснавальнікаў. Таму і вырашылі перайменаваць яе ў Вішнёвую. Была ў Мінску вуліца Смаленская, ды аказалася, што ўся яна патанае ў зарасніках бэзу. Таму, натуральна, і новае найменне яе — Бэзавая. А што датычыць Цяністай, дык хай Ю. Антонаў прыязджае ў Мінск і пастаіць у цяню на былой 2-ой Савецкай—яна самая Цяністая ў нашай сталіцы. А ў дадатак былая Нагорная стала Валошкавая, былая Лясная (лес даўным-даўно знішчаны) — Прыазёрная і г. д. (гл. «Вячэрні Мінск» за 25 студзеня г. г.).

Заметка «Новыя вуліцы» ў гарадской газеце згадалася нам нездарма. Яна досыць красамоўна гаворыць пра «надзвычай багатую» фантазію людзей, якім даручана сур'ёзнейшая справа «хрышчэння» вуліц і іншых гарадскіх аб'ектаў, а галоўнае — пра меру адказнасці, з якой яны гэта робяць. Менавіта пра меру адказнасці пішуць і нашы лімаўскія чытачы, дзелячыся з намі засмучэннямі і недаўменнямі, што выклікаюць у іх бясконцыя і вельмі часта неразумныя, неправамерныя перайменаванні вуліц і вёсак, наогул непавага да спрадвечных народных найменняў.

Кандыдат тэхнічных навук мінчанка **Э. Крукава** звяртаецца ў рэдакцыю з просьбаю... вярнуць былое імя яе роднай вуліцы. «Спрадвеку, — піша тав. Крукава,—я жыла на вуліцы Кавальскай, і дзеці мае на ёй нарадзіліся і выраслі, а зараз яе ўзялі ды перайменавалі ў вуліцу імя Варанянскага. «Кавальская»—гэта і наша роднае слова, і забытае сённяшнім часам рамяство, і памяць людзей, якія жылі і жывуць тут. Урэшце гэта—гісторыя горада. Нічога не маю супраць партызанскага камандзіра Варанянскага. Пэўна, ён варты людской памяці. Пра гэта сведчыць тое, што ў г. п. Плешчаніцы Лагойскага раёна, дзе ваяваў Варанянскі, яго імя носіць адна з вуліц. Дык ці трэба было ліквідоўваць старадаўняе, звычнае і дарагое імя нашай вуліцы?»

Многія чытачы «ЛіМа» ў сваіх пісьмах пра найменні вуліц і плошчаў Мінска спасылаюцца на артыкул А. Малчанава «Знайсці твар горада», які быў змешчаны ў штотыднёвіку ў канцы мінулага года («ЛіМ» за 17 лістапада 1989 года), пагаджаючыся з аўтарам у тым, што сапраўды многія назвы вуліц Мінска не вызначаюцца арыгінальнасцю, не маюць адзнак гістарычнай, геаграфічнай і нацыянальнай прыналежнасці.

**Так, мінчане У. ЦЯРОХІН і І. ВАШКЕВІЧ пішуць: «Да якой пары нашы вуліцы і плошчы будуць насіць імёны Калініна, Варашылава і іншых, што прыклалі руку да генацыду над беларускім і іншымі народамі, і хто даўно ўжо асуджаны грамадскім судом усіх сумленных людзей? Да якога часу адну з прыгажэйшых плошчаў Мінска будзе «ўпрыгожваць» помнік Калініну, подпіс якога стаіць пад шэрагам антычалавечых указаў, накіраваных на масавую загубу савецкіх людзей, у тым ліку жанчын і дзяцей?»**

**Аўтары ліста падрабязна пералічваюць пастановы і дакументы, пад якімі стаіць подпіс Калініна, саўдзельніка злачынстваў, супольніка сталінскіх беззаконняў і рэпрэсій. Яны прапануюць стварыць грамадскі камітэт пры Беларускім фондзе культуры, які б займаўся распрацоўкай назваў вуліц і плошчаў нашага горада. У склад камітэта павінны ўвайсці лепшыя і дасведчаныя мінчукі: пісьменнікі, гісторыкі, прадстаўнікі розных грамадскіх арганізацый, іншыя вартыя даверу людзі, якіх вылучаць самі жыхары Мінска з дапамогай анкетавання ў друку. Камітэт павінен распрацаваць пакет прапаноў па перайменаванні, улічваючы думкі і меркаванні мінчукоў, з абавязковым абмеркаваннем іх у друку. «Каб усё гэта было потым на стагоддзі!» — падкрэсліваюць тав. Цярохін і Вашкевіч. Плошчу Калініна яны прапануюць перайменаваць у плошчу Каліноўскага, а на месцы помніка Калініну паставіць помнік бессмяротнаму змагару, праваднырy «дзецюкоў» Кастусю.**

**Мінчанін К. КУЗНЯЦОЎ таксама абураецца тым, што імем Калініна ўсё яшчэ называюцца плошча і вуліца, а на будынках чыгуначнага вакзала і тэатра імя М. Горкага вісяць мемарыяльныя дошкі ў ягоны гонар.**

**Плошча Калініна згадваецца і ў лісце Т. МІХЕЙЧЫКА з Мінска. Ён піша: «Нататка ў «ЛіМе» за 9 сакавіка «Помнік Ф. Скарыне—дзе і які?» выклікала ў мяне недаўменне. Дзіўная рэч: няма ў Мінску месца, каб паставіць помнік Ф. Скарыне! Мне здаецца, лепшае месца для гэтага — плошча Калініна. Хай аргкамітэт зверне ўвагу на маю прапанову».**

**Інжынер А. КАТЛЯНІК з Мінска дзеліцца ў лісце думкамі аб тым, якім яму бачыцца будучы помнік Ф. Скарыне, выказвае канкрэтныя прапановы, якім і дзе ён можа паўстаць у нашым горадзе. Але пісьмо сваё тав. Катлянік пачынае вось такім катэгарычным імператывам: «Плошча Калініна павінна знікнуць з карты Мінска, як і вуліца Варашылава, плошча Мяснікова і многае іншае...»**

Дарэчы, варта адзначыць, што вуліцы Варашылава вернута былая назва — Арлоўская.

Пра тое, што многія назвы вуліц пазбаўлены ўсялякай логікі і здаровага сэнсу, пішуць жыхары Мінска **В. Рычык** і **У. Вярховіч**: «Калі ёсць такія вуліцы, як «Газеты «Известия», «Газеты «Правда», дык чаму не з'явіцца вуліцам часопіса «Крокодил» ці «Политического собеседника», тэлеперадачы «Взгляд», «120 минут» або «Сеанс здароўя ўрача-псіхатэрапеўта Кашпіроўскага»? Назвы вуліц Зімовая з двума аднайменнымі завулкамі, Калектыўная з завулкам і праездам, Калектарная, Крайняя, Кустарная (ці Саматужная?), Пуцеправодная з 8-мю завулкамі, Стандартная, Тэлеграфная, Тыражная з 2-ма завулкамі і праездам, Трубная з 3-ма завулкамі, Паўднёва-Заходняя... узяты быццам з гратэскнага рамана...»

А гэта ж, падкрэсліваюць чытачы, неад'емная частка нашай культуры, і ўсё тут павінна быць абдумана і выверана. І далей чытачы задаюць такое пытанне: на якой падставе плошча на скрыжаванні вуліц Горкага і Сурганава займела назву Бангалор? Так, у Індыі ёсць горад з такой назвай, і парк, які побач з плошчай, носіць імя «Дружбы народаў», аднак усё ж цяжка, немагчыма зразумець, чаму менавіта плошчу трэба называць імем індыйскага горада. Мажліва, беларуска-індыйскаму магазіну ці рэстарану такая назва і пасавала б, але, на думку чытачоў, не плошчы.

Некалькі лістоў прыйшло ў рэдакцыю з Гомельшчыны. І вось які красамоўны факт: аўтары двух з іх—І. Ермачэнка і А. Катэрлі—жывуць у Гомелі на вуліцы... Жамчужнай! «Умри, несчастная!» — «красивее» не прыдумаеш!

Рабочы, член нефармальнага гісторыка-краязнаўчага аб'яднання «Вытокі» **І. Ермачэнка** паведамляе ў лісце, што «дзейнасць тапанімічнага савета Гомельскага абласнога аддзялення фонду культуры ўскалыхнула, збудзіла ад спячкі ўвесь Гомель, адгукнулася і ў вобласці. Ужо вернута гістарычная назва—Шацілкі — Светлагорску. На чарзе перайменаванне вуліц абласнога цэнтра ў сувязі з яго 850-годдзем. Вопыт гамяльчан трэба падтрымаць».

Кандыдат філалагічных навук **А. Катэрлі** ў сваім допісе расказвае пра выдатнага краязнаўцу, настаўніка Уладзіміра Уладзіміравіча Баярына, які сваёй асабістай апантанасцю, нязломнай воляю дамогся таго, чаго не маглі зрабіць спецыялісты, аўтарытэтныя вучоныя,—вярнуў на карту рэспублікі спрадвечнае імя населенага пункта Ленін (заснаваны ў 1582 годзе) замест Леніна, даказаў, што не ад імя правадыра рэвалюцыі пайшла гэтая назва.

**Філолаг з Бранска А. МАГАНКОВА разам з гомельскімі краязнаўцамі ездзіла па вёсках Гомельшчыны ў пошуках самабытных фальклорных тэкстаў — тапанімічных паданняў, вераванняў, абрадаў, запісвала унікальныя назвы населеных пунктаў, вуліц, урочышч. Іх колісь было вельмі шмат. А цяпер? А цяпер паўсюль запанавалі Калгасныя і Кааператыўныя вуліцы, Маладзёжныя, Камсамольскія, Фізкультурныя, Савецкія. З гэтай нагоды яна зазначае: «Так, эмоцыі такія назвы выклікаюць, толькі далёка не эстэтычнага зместу. Нельга мірыцца больш з пустацветам псеўдаэстэтыкі, псеўдакультуры і псеўдапатрыятызму. Гэты пустацвет і без таго пусціў у нашых вялікіх і малых гарадах і паселішчах дастаткова глыбокія карані, каб дазваляць яму разрастацца і далей».**

**Гэтым жа болем прасякнуты і ліст заслужанага работніка культуры БССР Ф. КОНЫШАВА з Мінска: «Толькі раўнадушныя да гісторыі народа, малакультурныя апаратчыкі здольны былі гэтак лёгка даць каманду разбурыць будынак Кадэцкага корпуса ў Полацку і змяніць назву, скажам, Рудабелкі на Акцябрскі. І самае недарэчнае, што рабілі яны гэта нібыта дзеля выхавання ў нашых людзях архіпатрыятызму...».**

**Шмат лістоў (як і згаданы першым ліст мінчанкі Э. Крукавай), у якіх чытачы расказваюць гісторыю той ці іншай канкрэтнай назвы і патрабуюць рэабілітаваць яе, вярнуць да жыцця. Лісты гэтыя, трэба зазначыць, досыць аргументаваныя і пераканаўчыя.**

**Так, Г. АУЛАСЕНКА з Чэрвеня расказвае, як глыбока гістарычная назва яго роднага горада Ігумен ператварылася ў Чэрвень. Аказваецца, у чэрвені горад быў вызвалены ад белапалякаў. «Ну, а калі б вызваленне тое адбылося ў студзені ці ў лютым? Дык што, і назва была б адпаведнай?»—пытаецца чытач.**

**Сям'я САХАНЬКОЎ з Баранавічаў выступае за тое, каб вярнуць спрадвечную назву сталіцы рэспублікі — Менск, каб прыняць спецыяльную дзяржаўную пастанову па вяртанні нашым гарадам і вёскам сапраўдных гістарычных найменняў.**

**Інжынер з Масквы А. ДРАЯНКОЎ (ураджэнец Гомельшчыны) расказвае пра мястэчка, якое мела старажытную назву Вобасаў, што азначала месца набажэнства ў радзімічаў за паганскім часам. Назва, якая існавала стагоддзі, яшчэ з дахрысціянскага часу, у трыццатыя гады была заменена на Пабядзіцель (менавіта Пабядзіцель, нават не Пераможца). І чытач, як і папярэдні, зноў пытаецца: «Пабядзіцель—над кім ці над чым? Над здаровым сэнсам?»**

Скончыць агляд хочацца грунтоўным, доказным пісьмом выкладчыка кафедры беларускай мовы Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны **Л. Кузьміча**. Адзначыўшы, што назвы нашых вёсак і пасёлкаў—жывыя сведкі гісторыі роднага краю часам беспадстаўна мяняліся, замяняліся агульнавядомымі словамі, якія не мелі аніякіх адносін да гісторыі таго ці іншага паселішча, працоўнага і культурнага ўкладу яго насельнікаў, аўтар ліста запрашае нас зазірнуць у «Матэрыялы да слоўніка назваў жыхароў Гомельшчыны», якія змешчаны ў падрыхтаваным кафедрай зборніку «Беларуская мова». Гэтыя «Матэрыялы...» даволі выразна адлюстроўваюць так званыя замены «няўдалых» назваў на больш «удалыя». Л. Кузьміч прыводзіць не адзін дзесятак такіх, проста скажам, недарэчных, неўразумелых замен. Скажам, вёска Святоцк стала Дзяржынскам, Вараўка—Чапаеўкай, Гразючка—Някрасавым, Жаробнае—Чкалавым, Радзівілавічы—яшчэ адным Дзяржынскам, Берасцяны Завод—Чапаеўскім, Сямёнаўка—Калініна і г. д. Назвы памяняны, а людзі як называлі сябе раней, так і называюць. А як жа інакш? Пасёлак Закрэўе ў Буда-Кашалёўскім раёне перайменавалі ў Барэц (зноў жа — нават не Змагар). Дык што, усе жыхары яго сталі барцамі? Не, людзі як былі закрэўцамі, так і засталіся закрэўцамі. У гэтым жа раёне быў пасёлак Рагаўскі. Каму замінала гэтая назва? Перайменавалі ў пасёлак Луч. Ды не хочуць жыхары быць лучаўцамі, па-ранейшаму кажуць: рагаўскі чалавек, рагаўская кабета...

Л. Кузьміч найперш спыняецца менавіта на такіх назвах, як тыя ж Барэц і Луч—неўласцівых беларускай мове. Іх аўтар прыводзіць цэлы спіс: Надзеждзіна (раней Угольцы Буда-Кашалёўскага раёна), Уютны (раней пасёлак Дзевяты гэтага ж раёна), Знамя Труда (раней Абрэзы Гомельскага раёна), Пабеднае (раней Падварак Лельчыцкага раёна), Южны (раней Нехацяеўка Гомельскага раёна), Надзежда (раней Барок Веткаўскага раёна) і інш. Ударным стала вёска Асмаленік Лельчыцкага раёна, а Куставіца Рагачоўскага раёна — Ударнікам. Вёска Машарына Чачэрскага раёна стала Усходам, Шапрудаўка таго ж раёна—Рассветам, Сіпораўка Рагачоўскага раёна—Партызанамі, Капліца Мазырскага раёна—Горнай, Шалухоўка Веткаўскага раёна—Перамогай, Быкі Добрушскага раёна—Сцягам, Макрэнь Чачэрскага раёна—Дружбічамі, Гараваха Петрыкаўскага раёна—Першамаем, Чысталужжа Веткаўскага раёна—Усходам, Хатні Добрушскага раёна — Чырвоным Сцягам, Лапці Жлобінскага раёна — Дубовай Градой, Засценак Дуброва Рагачоўскага раёна—Перадавой, Гуляй-Поле Жлобінскага раёна — Аляксандраўкай, Буслы Буда-Кашалёўскага раёна — Чырвоным Дунаем...

Міжволі тут услед за чытачом развядзеш рукамі ў роспачы і недаўменні. Нават такую паэтычную назву, як Буслы, назваць Чырвоным Дунаем! Хто і колькі думаў над тым, каб учыніць такі здзек?!

Адзін з чытачоў выказаў у сваім лісце такую думку: тая ці іншая назва населенага пункта, вуліцы, плошчы, гэтак жа, як і імя чалавеку, даецца раз на ўсё жыццё. З адной розніцай—у геаграфічных найменнях павінна начыста адсутнічаць выпадковасць.

Што праўда, то праўда!

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ.**

# Для беларусаў, пра беларусаў, на беларускай мове

## АБ'ЯЎЛЯЕЦЦА ПАДПІСКА



# Наша Ніва

### Першая Беларуская Газэта з Рысункамі

### /1906—1915/

### ФАКСІМІЛЬНАЕ ВЫДАННЕ

**З гістарычнага забыцця, з забароны і заняпаду «Наша Ніва» вывела на белы свет беларуса-інтэлігента, беларуса-патрыёта, беларуса-палітыка. «Наша Ніва»—летапіс нацыянальнага адраджэння, энцыклапедыя вызваленчага руху беларусаў.**

## *У «Нашай Ніве»*

— развагі і думкі пра нацыянальны, сацыяльны, эканамічны і палітычны шлях беларускага народа Антона Луцкевіча, Лявона Гмырака, Сяргея Палуяна, Аляксандра Уласава;

— залаты фонд беларускай паэзіі — вершы Янкі Купалы, Алеся Гаруна, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Альберта Паўловіча;

— класічная проза Максіма Гарэцкага, Ядвігіна Ш., Якуба Коласа, Змітрака Бядулі;

— «Кароткая гісторыя Беларусі» Вацлава Ластоўскага;

— партрэты забытых дзеячаў Беларусі: Сымона Канарскага, Адама Кіркора, Яна Баршчэўскага;

— артыкулы пра беларускую этнаграфію, тэатр, фальклор;

— шматлікія допісы з народнага жыцця — з местаў і вёсак тагачаснае Беларусі;

— крышталізацыя мовы; беларуская мова лацінскімі літарамі;

— змаганне з расійскімі чарнасоценцамі і паланізатарамі ў карэспандэнцыях «Аб мові ў касьцеле», «Не падзяліліся», «Якая палітыка патрэбна для Беларусі»;

— цікавыя звесткі з усяго свету;

— парады па гаспадарцы, беларуская кухня;

— беларускі гумар;

— матэрыялы на любы густ і любы ўзрост.

**Выдавецтва «Навука і тэхніка» плануе ажыццявіць гэтае выданне ў 6-ці кнігах на працягу 1990—1994 гг. Апошняя кніга будзе змяшчаць каментарыі, паказальнікі і іншы даведачны матэрыял. У 1990 г. выйдуць першыя дзве кнігі. Арыенціровачны кошт усяго выдання 30 руб. Пры афармленні падпіскі ўносіцца задатак у суме 3 руб.**

***Падпіска прымаецца** **ўсімі кнігарнямі рэспубліканскага аптова-рознічнага аб'яднання кніжнага гандлю «Белкніга», а таксама магазінамі Белкаапсаюза, якія гандлююць кніжнай прадукцыяй. Бібліятэкі афармляюць падпіску праз абласныя біблкалектары.**

**Чытачы, якія жывуць у іншых рэспубліках Савецкага Саюза, могуць аформіць падпіску праз кнігарню №30 «Падпісныя выданні». Яе адрас: 220050, г. Мінск, Ленінскі пр., 14.**

**Замежныя чытачы могуць падпісацца на гэтае выданне праз кнігагандлёвыя фірмы сваёй краіны, якія займаюцца распаўсюджаннем савецкай літаратуры.**

**Факсімільнае выданне гарантуе поўную захаванасць тэксту!**

**Разлічанае на шырокае кола чытачоў, яно павінна быць у кожнай грамадскай бібліятэцы, у кожнай сям'і, дзе жыве ці адраджаецца беларускі дух.**

**Для нас, нашых дзяцей і ўнукаў:**
**беларуская газета «Наша Ніва» —**
**повязь у непарыўным ланцужку**
**пакаленняў!**

*ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА*

## ДЗЯКАВАЦЬ БОГУ!

I зноў С. Букчын, і зноў тыя ж атручаныя стрэлы (чарніла папалам з жоўцю), і ўсё ў той жа адрас — у адрас «ЛіМа». Маем на ўвазе яго «пристрастные заметки» (яны ж — «размышления, навеянные одной публикацией») пад недарэчным загалоўкам «Опять — «тащить и не пущать»?» («Знамя юности» за 14 сакавіка).

Перш-наперш узнікае пытанне, а ці з тых аўтараў С. Букчын, каго можна куды-небудзь «не пущать»? Ён хутчэй за ўсё з тых, хто ўлезе праз акно, калі не пусцяць праз дзверы, і для каго якраз і патрэбен быў бы, відаць, згаданы ім страж з алебардай, «грозно вопрошающий: «По какому случаю шум?»

*Дык з якой жа нагоды шум*, Сямён Уладзіміравіч? З якой нагоды гэтыя вашы правакацыйныя пасажы: «Один молодой критик, человек не только ироничный, *но и* достаточно практический (?), спросил меня: «Что вы будете делать, когда Белоруссия выйдет из Союза?»... «Всех нас мучает «предчуствие, гражданской войны»... Аб чым гэта? Да чаго? І якое дачыненне маюць гэтыя вашы змрочныя прадчуванні-прадказанні да штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва»? Вы гаворыце пра канфрантацыю паміж некаторымі масноўскімі выданнямі і выказваеце, па ўсім відаць, шкадаванне, што такога супрацьстаяння няма ў літаратурным жыцці рэспублікі. Дык што, узялі на сябе няўдзячную ролю падбухторшчыка, інтрыгана? Паставілі за мэту шукаць ворага?

Інакш ваш чарговы «твор» мы не можам вытлумачыць. Калі не браць у разлік шматслоўныя, дэмагагічныя «размышления» аб усім і ні аб чым, брудныя інсінуацыі і намёкі, то больш у вашых «заметках» нічога няма. Хоць вы і берацe на сябе добраахвотнае абавязацельства «видеть, отмечать и анализировать всё».

Не маючы па сутнасці сур'ёзных аргументаў і фактаў, вы проста лаецеся і па-петушынаму наскокваеце на штотыднёвік, называючы гэта «уточнением, четким определением позиций». Што ж гэта за пазіцыя?

Такія вашы выразы, як «патриотическая полиция» і «лицемерные патриоты» гавораць самі за сябе і яскрава паказваюць, што Лімавец сваёй рэплікай трапіў не ў брыво, а ў вока. Менавіта нацыянальнае пытанне не дае вам спакою. Зрэшты, нацыянальнае пачуццё, як і маральныя крытэрыі, можа сапраўды адсутнічаць, і прыкладаў таму навокал шмат. Але ўся справа ў тым, што «отсутствие *наличия*» не дае маральнага права выступаць у якасці суддзі, высакамернічаць, а тым болей высмейваць святыя для нармальных людзей паняцці, у тым ліку і патрыятызм.

Не так даўно «*ЛіМ*» змясціў вашы гнеўныя нататкі пра дэбош у ЦДЛ, учынены актывістамі «Памяці». Тым не менш, вы нам зноў кідаеце папрок: не тых друкуем, не тую прынцыповасць праяўляем, не тыя лозунгі абараняем. А ўжо па злашчаснаму Лімаўцу вы ўвогуле топчацеся з нагамі! Чаго яму толькі ні прыпісваецца! Якія перлы іроніі і сарказму ні пускаюцца ў ход! Ён—і «маленький, скучный, невежественный патриотик» (!) і «чиновник» (?), і нават мае «родственного поэта» (?!). «*Лімаўка*», член рэдкалегіі Г. Каржанеўская і не спадзявалася на такі паток красамоўства ў адказ *на кароткую рэпліку*. Сам Салтыкоў-Шчадрын, лічыць яна, тут пачасаў бы за вухам... Дык, можа, вам варта паспрабаваць сябе ў жанры палітычнай сатыры? Альбо заняцца ўрэшце сваёй непасрэднай працай у Інстытуце літаратуры АН БССР, куды вы ў свой час досыць загадкава трапілі, — прынамсі, не па запрашэнню самога інстытута. Па ўсёй бачнасці, вы *яўна* не па прызначэнню выкарыстоўваеце сваю *службовую пасаду*, свой «аналітычна-крытычны» імпэт.

Адно, што нас усцешыла ў «пристрастных заметках», гэта абяцанне, што вы спыняеце палеміку з нашай газетай. Дзякаваць богу!..

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 00043

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: *прыёмнай рэдакцыі* — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.